• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

4 ліпеня 1996 г. чацвер, № 169 (22972)

# ЗВЯЗДА






# Глыбокая ўдзячнасць і вечная памяць ўсім паўшым за свабоду і незалежнасць Радзімы

## У ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ПРЭЗІДЭНТ ГАВАРЫЎ АБ МІРЫ

***3 ліпеня, у Дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ўсклаў вянок да абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску, ушанаваўшы памяць абаронцаў Айчыны. Ва ўрачыстай цырымоніі прынялі ўдзел старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, кіраўнік Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір, іншыя афіцыйныя асобы, прадстаўнікі духавенства і грамадскіх арганізацый беларускай сталіцы.***







Кіраўнік дзяржавы павіншаваў ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, партызан і падпольшчыкаў, увесь народ з самым дарагім для беларусаў святам. У сваёй кароткай прамове Аляксандр Лукашэнка выступіў з ініцыятывай аб'явіць бяз'ядзернай зонай Беларусь, іншыя дзяржавы — члены СНД, а таксама краіны Балтыі, Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. «Наша рэспубліка, — сказаў Прэзідэнт, — за сваю гісторыю перажыла не адну вайну, і расшырэнне блока НАТО на Усход не павінна стаць прычынай стварэння новага ачага напружанасці». Сродкі, якія НАТО мае намер патраціць для нарошчвання сваёй ваеннай прысутнасці ва Усходняй Еўропе, Аляксандр Лукашэнка прапанаваў выкарыстоўваць для аказання гуманітарнай дапамогі тым, хто пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы.

У гэты дзень ускладанне кветак і вянкоў на магілы воінаў-вызваліцеляў адбылося ў гарадах і вёсках Беларусі як знак глыбокай удзячнасці народа ўсім паўшым за свабоду і незалежнасць Радзімы.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ, БЕЛТА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА (Звязда).**

# ПОДЗВІГ НАРОДА БЕССМЯРОТНЫ

## *Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ 3 ліпеня на плошчы Перамогі*

Паважаныя ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, партызаны і падпольшчыкі, родныя і блізкія загінуўшых у баях, закатаваных у гітлераўскіх засценках і памёршых герояў!

Дарагія жыхары горада-героя Мінска!

На нашу зямлю прыйшло самае дарагое для беларускага народа свята Вызвалення. Пяцьдзесят два гады таму доблесная Чырвоная Армія, разграміўшы адборную групоўку гітлераўцаў і іх агідных памагатых, вызваліла нашу родную сталіцу. У хуткім часе фашысты былі выгнаны з апошняга кутка беларускай зямлі. Наш народ быў выратаваны ад пагалоўнага знішчэння акупантамі.

Тысячу дзевяноста дзевяць дзён злосны цень фашысцкай свастыкі навісаў над жыццём і лёсам кожнага мінчаніна. Але горад не пакарыўся ворагу і яго памагатым. Ужо ў апошнія дні чэрвеня 1941 года ў Мінску былі створаны першыя падпольныя арганізацыі, якія затым аб'яднаў Мінскі падпольны гарадскі камітэт партыі. Яго ўзначаліў гераічны сын беларускага народа, мужны савецкі патрыёт Іван Кірылавіч Кавалёў.

Антыфашысцкае падполле аб'яднала звыш дзевяці тысяч жыхароў сталіцы трыццаці нацыянальнасцей, антыфашыстаў з дзевяці дзяржаў Еўропы.

Шмат і па заслугах сказана і напісана аб баявых справах мінскіх падпольшчыкаў. Мне б хацелася адзначыць выключны гуманізм іх бяспрыкладнага подзвігу. За гады акупацыі падпольшчыкі вывелі з горада ў партызанскія атрады і зоны звыш дзесяці тысяч сем'яў мінчан, у тым ліку каля тысячы сем'яў смяротнікаў з мінскага гета.

Мінчане ўступалі ў падпольныя арганізацыі цэлымі сем'ямі ад малога да вялікага. І часта прымалі ўсе разам пакутніцкую смерць. Няхай будуць свяшчэннымі для нас імёны сем'яў мінскіх падпольшчыкаў Шчарбацэвічаў, Герасіменкаў, Сосіных, Цвятковых, Янушкевічаў, Клумавых, Каржанеўскіх і многіх іншых.

Ушануем жа светлую памяць воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў, усіх мірных жыхароў, якія загінулі ў гады вайны, мінутай маўчання.

Подзіг народа бессмяротны. Яго нікому не ўдасца абылгаць і прынізіць.

Зусім нядаўна споўнілася 55 гадоў з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Усе мы глыбока смуткуем па мільёнах і мільёнах ахвяр, яшчэ мацней усведамляем веліч подзвігу байцоў Чырвонай Арміі, партызан і падпольшчыкаў, нашых брацкіх народаў, якія перамаглі фашызм. Таму пытанні ўмацавання бяспекі на граніцах краін СНД для нас не прычына для дыпламатычнай рыторыкі, а адзін з важнейшых напрамкаў дзяржаўнай палітыкі. Менавіта таму мы не ўтойваем свайго непрымання руху НАТО на ўсход.

Я прапаную — у раёнах былых сацыялістычных дзяржаў Усходняй Еўропы, на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, іншых дзяржаў, якія выказалі сваё жаданне, стварыць бяз'ядзерную зону. Я прапаную ўсім прыхільнікам руху НАТО на ўсход сродкі, якія спатрэбяцца на ажыццяўленне гэтай небяспечнай і дарагой задумы, выкарыстаць на гуманітарную дапамогу ахвярам Чарнобыля, на пераадоленне экалагічных вынікаў катастрофы.

У новай міжнароднай сітуацыі наспела пытанне аб стварэнні бяз'ядзернай прасторы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

Беларусь, якая перажыла жахі не адной вайны, чарнобыльскую катастрофу, безумоўна, выступае за стварэнне бяз'ядзернай прасторы ў цэнтры Еўропы. Аднак сёння недастаткова аднабаковых мер па ядзернаму раззбраенню. Неабходны ясна выражаная воля ўсіх нашых суседзяў, іх гатоўнасць да канкрэтных крокаў па стварэнню бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральным і Усходнім рэгіёнах Еўропы. Як аўтар прапановы Беларусь гатова ўзяць на сябе ролю каардынатара такіх крокаў, але, падкрэсліваю, яны павінны быць шматбаковымі.

Дарагія суграмадзяне!

Не толькі героі ратных бітваў і нябачных схваткак з лютым і каварным ворагам пакінулі аб сабе светлую і нязгасную памяць. Цудоўным помнікам іх мужнасці і барацьбе з попелу пажарышчаў, з груды развалін узняўся горад-герой, прыгажун-Мінск. Вось што такое воля народа да жыцця, воля народа да свабоды, воля народа да стварэння! Вось што такое вернасць вялікай ідэі і Чырвонаму Сцягу вялікай Перамогі!

Слава нашай гераічнай Чырвонай Арміі, партызанам і падпольшчыкам, якія вызвалілі беларускую зямлю ад гітлераўскіх захопнікаў і іх памагатых!

Слава беларускаму народу, народу-герою, народу-патрыёту! Слава нашым доблесным героям, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, слава нашым ветэранам!

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

***№ 432***

**Аб спагнанні платы за праезд па аўтамабільнай дарозе Брэст — Мінск — граніца Расійскай Федэрацыі**

У мэтах павелічэння паступлення сродкаў на мадэрнізацыю, рамонт і ўтрыманне аўтамабільнай дарогі Брэст — Мінск — граніца Расійскай Федэрацыі, забеспячэння бяспекі руху па ёй, развіцця сэрвісных паслуг Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці з 1 лістапада 1996 г. плату за праезд аўтатранспартных сродкаў па ўтамабільнай дарозе Брэст — Мінск — граніца Расійскай Федэрацыі.

Вызваліць часова, тэрмінам на два гады, ад платы за праезд па ўказанай аўтамабільнай дарозе ўладальнікаў і карыстальнікаў аўтатранспартных сродкаў Рэспублікі Беларусь, а таксама аўтатранспартных сродкаў, што ажыццяўляюць перавозку грузаў у парадку гуманітарнай дапамогі.

2. Ускласці на рэспубліканскае дзяржаўнае вытворчае прадпрыемства «Белаўтастрада» Міністэрства транспарту і камунікацый спагнанне платы за праезд аўтатранспартных сродкаў па аўтамабільнай дарозе Брэст — Мінск — граніца Расійскай Федэрацыі.

3. Міністэрству транспарту і камунікацый па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў удакладніць стаўкі платы, што бярэцца з уладальнікаў і карыстальнікаў аўтатранспартных сродкаў за праезд па аўтамабільнай дарозе Брэст — Мінск — граніца Расійскай Федэрацыі.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. ЧЫГІР.**

*1 ліпеня 1996 г.*
*г. Мінск.*

## БОЛЬШ ЧЫМ 50 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ ЗАПАЗЫЧЫЎ БЕЛАРУСКІ ЎРАД РАБОТНІКАМ АДУКАЦЫІ

**Згодна з апошнімі дадзенымі, запазычанасць па заробку і адпускных у сферы адукацыі складае 51 мільярд 680 мільёнаў рублёў. Найбольш складаная сітуацыя ў Гомельскай вобласці — звыш 19 мільярдаў; затым ідзе Мінская — больш чым 14 мільярдаў; Магілёўская — больш чым 13 мільярдаў рублёў. Лепшыя паказчыкі ў Гродзенскай вобласці і Мінску.**

У параўнанні з ранейшымі дадзенымі запазычанасць зменшылася практычна ў тры разы, аднак у Федэрацыі прафсаюзаў на гэты конт лічаць за лепшае не ўсцешвацца. Ва ўсякім выпадку, пакуль запазычанасць будзе захоўвацца, прафсаюзы маюць намер пастаянна прыцягваць увагу ўрада да дадзенай праблемы.

Пытанне аб сітуацыі ў галіне адукацыі выносіцца на разгляд Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях, чарговае пасяджэнне якога пройдзе ў дваццатых чыслах ліпеня.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

● Да 25 працэнтаў падаткаў **недабіраюць нашы падатковыя службы ў год**; у той жа час у Расійскай Федэрацыі — не менш 40 працэнтаў, а вось у Францыі скрываецца толькі 10—13 працэнтаў падаткаў. Найлепшым жа чынам пастаўлена справа ў Злучаных Штатах: толькі каля 5 працэнтаў падаткаў штогод недаатрымлівае гэтая дзяржава.

● Сёння **ў Беларусі пражывае каля 200 тысяч удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны,** 60 тысяч з іх — інваліды.

● Калі пяць гадоў назад у нашай рэспубліцы было зарэгістравана 365 незаконных аперацый з наркатычнымі рэчывамі, расследаваны 152 крымінальныя справы, асуджана 217 чалавек, то летась **гэтыя паказчыкі выраслі ў чатыры разы.**

● Цікавае адкрыццё зрабілі вучоныя Гомельскага універсітэта: аказваецца **мінеральная вада значна павышае прадуктыўнасць кароў** — каровы ахвотна п'юць яе, пасля чаго ў іх павышаецца апетыт і павялічваюцца надоі, заадно вырашаецца праблема дэфіцыту мінеральных дабавак у корме.

● Пры агульнай суме 4,6 трлн. рублёў, выдзеленых Міністэрству сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання ў 1995 годзе (у 1,8 раза больш, чым запланавана бюджэтам), **аб'ём валавой прадукцыі ў аграрным сектары за мінулы год зменшыўся на 13,6 працэнта** ў параўнанні з 1994 годам і на 46,5 працэнта — з 1990-м.

● **Безвынікова закончылася спроба** прэзідэнтаў Латвіі, Літвы і Эстоніі атрымаць падтрымку амерыканскай адміністрацыі адносна ўключэння гэтых краін у спіс першых прэтэндэнтаў на ўступленне ў НАТО.

● У аўстралійскай Паўночнай тэрыторыі з сённяшняга дня ўступіў у сілу закон, згодна з якім **невылечна хворыя людзі могуць закончыць сваё жыццё** шляхам увядзення ў кроў з дапамогай медыцынскага персаналу хуткадзейнага яду (пры гэтым не менш як тры ўрачы, сярод іх адзін псіхіятр, павінны пацвердзіць у пісьмовай форме, што хворы сапраўды невылечны і добраахвотна хоча пакончыць з жыццём).

ПОГЛЯД

# РАСІЯ ВЫЗНАЧЫЛАСЯ

***Учора расіяне выбіралі на бліжэйшыя чатыры гады кіраўніка дзяржавы***

У момант, калі вы чытаеце гэтыя радкі, вынікі ўчарашняга галасавання ў Расіі ўжо вядомыя. Вялізная краіна, на долю якой у XX стагоддзі выпала столькі драматычных выпрабаванняў, вызначылася і, хочацца спадзявацца, зрабіла выбар на карысць дастойнай будучыні, дэмакратыі, рыначнай эканомікі.

Мінулая выбарчая кампанія ў пэўнай ступені адаб'ецца на будучыні расійска-беларускіх адносінаў. Крэмль уважліва сачыў за тым, якую пазіцыю ў дачыненні да кандыдатаў у прэзідэнты Расіі займаюць бліжэйшыя саюзнікі па Садружнасці.

Амаль усе лідэры краін СНД актыўна падтрымалі кандыдатуру Барыса Ельцына. Месяц таму перад чарговым саммітам у Маскве шэраг прэзідэнтаў сярэднеазіяцкіх дзяржаў ініцыіравалі калектыўную заяву кіраўнікоў краін Садружнасці ў падтрымку Ельцына. Падпісалі яе ўсе 11 прэзідэнтаў, уключаючы і Аляксандра Лукашэнку.

Аднак лідэр Беларусі ў шэрагу публічных выступленняў прадэманстраваў і іншую пазіцыю адносна расійскіх выбараў. Ён не раз заяўляў, што дыстанцыіруецца ад гэтай праблемы, што выбары — унутраная справа Расіі, што ў выпадку, калі б ён стаў на бок Барыса Ельцына, гэта толькі пашкодзіла б цяперашняму расійскаму прэзідэнту.

Адначасова дзяржаўнае Беларускае тэлебачанне, падпарадкаванае ўраду, перад першым турам выбараў у сваіх інтэрв'ю і прагнозах яўна аддавала перавагу Генадзю Зюганаву (прынамсі, штовечар у «Панараме» гучалі, як правіла, галасы прыхільнікаў лідэра КПРФ).

Калі такая пазіцыя — плён калектыўнай творчасці ўрадавых экспертаў і аналітыкаў, то гэта — іх яўны пракол і сведчанне пэўнага ўзроўню прафесіяналізму.

Відавочна, упэўненасць некаторай часткі беларускага кіраўніцтва ў паражэнні Барыса Ельцына будавалася на аналогіях з выбарчай кампаніяй у Беларусі ў 1994 годзе, калі насельніцтва дружна адмовіла ў даверы Вячаславу Кебічу. Але пры гэтым не рабілася папраўка на тое, што Кебіч, у адрозненне ад Ельцына, ніякіх эканамічных рэформ у краіне не праводзіў. Уся яго палітыка была накіравана на кансервацыю існаваўшай сістэмы і захаванне ўласнай улады. Вынікам гэтай палітыкі стала паступовае пагаршэнне сітуацыі ў эканоміцы і зніжэнне жыццёвага ўзроўню. Расія ж пасля перыяду хваравітых і цяжкіх рэформ пачала падымацца з каленяў — і народ гэта адчуў.

Аналогія з вяртаннем да ўлады «левых» у шэрагу постсацыялістычных краін Усходняй Еўропы таксама некарэктная ў сілу шэрага абставін. Камуністычныя партыі ў краінах былога «сацлагера» адышлі ў палітычны нябыт — на іх руінах выраслі партыі сацыял-дэмакратычнага напрамку, якія, прыйшоўшы да ўлады, цвёрда вядуць свае дзяржавы да рынку і да ўступлення ў НАТО. Зюганаўская КПРФ мае вельмі мала агульнага, напрыклад, з Партыяй працы Літвы Бразаўскаса ці Сацыял-дэмакратычнай партыяй Польшчы Квасьнеўскага.

Расіяне, відавочна, таксама адчуваюць гэту розніцу: недарэмна для многіх імя Зюганава асацыіруецца з талоннай сістэмай размеркавання тавараў, «каўбаснымі» чэргамі і палітычнай цэнзурай.

Пасля першага тура выбараў і перамогі Барыса Ельцына стаўленне беларускага кіраўніцтва да расійскай выбарчай кампаніі змянілася. Гэта прадэманстравала і сустрэча двух прэзідэнтаў у Брэсце (якая, зрэшты, выявіла і істотныя супярэчнасці ў падыходзе да стратэгіі эканамічных рэформаў). Адначасова значна аслабела ўпэўненасць многіх беларускіх дзяржаўных СМІ ў поспеху Зюганава. На экране Беларускага тэлебачання раптам з'явіліся эксперты, якія прагназавалі ўжо перамогу Ельцына.

З прэзідэнтам, якога Расія ўчора выбрала, яна сустрэне 2000 год — увойдзе ў новае тысячагоддзе. Хочацца спадзявацца, што эпоха катаклізмаў і сацыяльных эксперыментаў у нашых найбліжэйшых суседзяў (а адначасова і ў нас саміх) на гэтым канчаткова адышла ў гісторыю.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## У СВЕЦЕ

### НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ АДНОЎЛЕНА

Урад Кіргізіі выдаў пастанову аб аднаўленні раздзела «нацыянальнасць» у пашпартах грамадзян рэспублікі. За чатыры месяцы пасля адмены гэтага раздзела мясцовы Белы дом быў завалены скаргамі грамадзян, якія не пажадалі развітвацца са сваёй нацыянальнасцю. Пратэст ураду накіравалі і 31 прадстаўнік нацыянальна-культурных таварыстваў Кіргізіі.

### МАСАВЫЯ ЧЫСТКІ Ў РАДАХ УЗБРОЕНЫХ СІЛ РАСІІ?

Як стала вядома агенцтву «Аргументы и факты-Новости» з крыніц, блізкіх да адміністрацыі прэзідэнта Расіі, у самы бліжэйшы час могуць пачацца масавыя звальненні генералаў і адміралаў Узброеных Сіл Расіі. З 12 тысяч генералаў і адміралаў, якія лічацца цяпер ва Узброеных Сілах Расіі, а таксама незлічонай колькасці старшых афіцэраў, у самы бліжэйшы час будуць звольнены 9200 чалавек. Падпісаны назначэнні 360 старшых афіцэраў арміі і флоту на вызваляемыя пасады.

### У ДЭКРЭТ ПАЙШЛІ ТАТЫ

Неплацежаздольнасць сельскагаспадарчага прадпрыемства «Іскра», што ў пасёлку Старыя Арці Курскай вобласці, прымусіла мужчынскую палавіну яго работнікаў, якія з'яўляюцца маладымі татамі, пайсці на незвычайны крок. 13 мужыкоў адправіліся ў дэкрэтныя водпускі. Таты маюць намер сядзець са сваімі дзецьмі да двухгадовага ўзросту, атрымліваючы адпаведную дапамогу. А тым часам іх жонкі будуць зарабляць грошы на пражыццё сям'і ў бюджэтных арганізацыях.

### ГАРБАЧОВА — У ААН

Старшыня Камітэта Дзярждумы па геапалітыцы Аляксей Мітрафанаў прапанаваў экс-прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова на пасаду кіраўніка ААН. Паводле яго слоў, Міхаіл Сяргеевіч задаволіць усіх: «Яму усё роўна цяпер няма чаго рабіць, калі яго назначаць, то ён сваім маналогам заблытае каго хочаш». Між тым цяперашні генсек ААН Бутрас Галі мае намер выставіць у верасні сваю кандыдатуру паўторна. Праўда ЗША ён не задавальняе па ўзросту, а галоўнае, на думку амерыканцаў, кіраўнік ААН разваліў работу гэтай арганізацыі. На нядаўняй сустрэчы «сямёркі» ў Ліёне Бутрасу Галі не знайшлося месца ў рэстаране, дзе вячэралі кіраўнікі краін: яго накіравалі з чыноўнікамі з МЗС у іншы рэстаран.

### У СПАРТСМЕНАЎ ЁСЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ДОБРА ЗАРАБІЦЬ

Улады Беларусі, Грузіі, Казахстана, Узбекістана абяцалі сваім чэмпіёнам Алімпіяды-96 прыкладна такія ж сумы прызавых, як і ў Расіі (50 тысяч долараў за першае месца, 20 і 10 тысяч — адпаведна за «серабро» і «бронзу»). Але больш за ўсіх за алімпійскае золата атрымаюць спартсмены Літвы — у пераліку ў долары — 445 тысяч. Праўда, паводле ацэнак спецыялістаў, чэмпіёнаў у Літве на гарызонце пакуль не назіраецца. Самымі скромнымі аказаліся ўкраінцы. Іх чэмпіёнам Алімпіяды-96 абяцана па 10 тысяч амерыканскіх долараў.

«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»

# Спачатку трэба ў арміі адслужыць, а пасля мо і з'явіцца шанц атрымаць зарплату своечасова

Самыя розныя, самыя недарэчныя сітуацыі з нявыплатай заробленых грошай здараюцца ў нашай краіне. Сведчаць пра гэта кароткія і ў адначассе балючыя гісторыі, што расказалі нашы чытачы, пазваніўшы ў «Звязду» па «гарачым тэлефоне» — 68-28-72.

Рэдакцыю патурбавала маці трактарыста з калгаса «50 гадоў БССР» Жлобінскага раёна — Клаўдзія Міхайлаўна Суворава. Сына забіраюць у войска. А вось зарплату не выдаюць, пачынаючы аж з сакавіка. Хіба ж што толькі двухтыднёвую дапамогу выдалі. А астатнія грошы?.. Відаць, у калгасе перакананы, што спачатку трэба ў арміі адслужыць, а пасля мо і шанц атрымаць зарплату з'явіцца.

У цэнтральнай бальніцы Капыля (пазваніла Фаіна Іванаўна Чарнушэвіч) зарплату выдаюць. Але апошнім разам прапанавалі заробленае за 1 дзень вылічыць на добраўпарадкаванне Капыля. Што ж, рашэнне па часе — і парадак павінен быць, калі не ўлічваць галоўнага — велічыні заробку медыцынскіх работнікаў.

Затрымкі з зарплатай закранулі ўсе сферы прамысловасці, народнай гаспадаркі. У традыцыю ўвайшло несвоечасова выплачваць грошы і на Мінскім вытворчым аб'яднанні аўтаматычных ліній. Не ратуюць прадпрыемства ні замежныя кантракты, ні спробы разлічыцца замест зарплаты таварамі шырокага ўжытку.

Паважаныя чытачы! Разумеючы, што дамагчыся станоўчага выніку вельмі цяжка нават у адным прыватным выпадку, мы ўсё ж звяртаемся да вас з просьбай званіць, паведамляць пра факты затрымкі, несвоечасовай выплаты зарплаты.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Выканаўца ролі Лёні Галубкова ў рэкламных роліках АТ «МММ» Уладзімір Пермякоў не будзе больш здымацца са сваёй былой партнёркай Рытай. Пасля таго, як ён нядаўна ажаніўся з маскоўскай журналісткай Наталляй Рэмізавай, яго адносіны з Рытай канчаткова сапсаваліся. І калі «МММ» зноў спатрэбіцца рэклама на ТБ, Маўродзі прыйдзецца весці перамовы не толькі з Пермяковым, але і з яго цяперашняй жонкай, якая таксама не мае нічога супраць, каб «купіць дом у Парыжы».

***«АиФ».***

Мадам Цюссо перавярнулася б у труне, калі б убачыла музей воскавых фігур, прысвечаны рок-н-ролу, які адкрыўся ў штаце Агайо, ЗША. Паколькі заснавальнікі музея лічаць, што ўся гісторыя гэтай музыкі звязана з сексам, яны настаялі на тым, каб усе дэталі нічым не прыкрытых воскавых фігур былі зроблены ў натуральную велічыню. Цікава, хто сачыў за захаваннем памераў?

***ЕАН.***

Многія жанчыны лічаць, што ўмеюць прыгожа апранацца. А распранацца? Тым, хто хоча навучыцца гэтаму старадаўняму рамяству, можна параіць звярнуцца да 22-гадовай галандкі Сірыкіт Торэн, якая адкрыла ў Амстэрдаме курсы пад назвай «Элегантны стрыптыз». Узрост яе студэнтак ад 19 да 55 гадоў. Некаторыя з іх мараць стаць зоркамі стрыптызу, некаторыя хочуць ажывіць сямейныя зносіны, а некаторыя — проста пазбавіцца ад комплексаў з нагоды тоўстых ног і вялікіх жыватоў...

***«SPEED-инфо».***

**ПРА МНАГАЖОНСТВА МЫ ЧУЛІ. Успомнім Юрыя Нікуліна, які спяваў: «Калі б я быў султан...» Або, да прыкладу, Абдулу з кінафільма «Белае сонца пустыні». Ды што там мастацтва! Парламент Абхазіі афіцыйна дазволіў мець некалькі жонак, праўда, не больш трох аднаму мужчыне і пры ўмове, што ён дастаткова забяспечаны і будзе плаціць за сваіх каханак падатак у дзяржбюджэт.**

**Мнагамужжа, аднак, нешта такое, чаго не было з часоў матрыярхату. Між тым яно існуе. І не дзе-небудзь у сярэдняй Азіі, а ў цэнтры Еўропы. Скажам, у Магілёве. «Мнагамужжа», праўда, тут я бяру ў двукоссе.**

ЛЁСЫ

# МНАГАМУЖЖА

Пытанне гэта настолькі далікатнае, што ўчастковы, які суправаджаў мяне ў госці да гэтай сям'і, настойліва прасіў не ўказваць прозвішчы. Што ж, асабістае жыццё ахоўваецца законам, ды і не ў прозвішчах справа. Сам па сабе лёс гэтых людзей такі, што для чытача не можа быць нецікавым. Настолькі неардынарны.

...Алена жыве ў адной кватэры з трыма мужчынамі. Не кватарантамі, не. Усе на правах быццам гаспадароў. За ўсіх іх Алена выходзіла калісьці замуж, вядома, у розны час. Потым разводзілася.

І вось пакінутыя мужы пачалі вяртацца. Адзін за адным. Як згаварыліся.

Алена прыняла аднаго, праз год на парозе — другі. Не выганяць жа на вуліцу. Тым больш што прыехаў з Поўначы. І не горшы за першага. А плошча дазваляла: у кватэры чатыры пакоі.

А там з месц пазбаўлення волі паявіўся і трэці. Гэтага тым болей шкада. Радні ніякай, ні кала ні двара, ды і трапіў за краты, можна сказаць, выпадкова.

Ці ёсць у Алены дзеці? Так, ёсць. Двое сыноў. Ад мужоў другога і трэцяга (я так і буду іх называць — па нумарах).

З-за чаго Алена разводзілася? З-за іх п'янства. Першага, другога.

Першы запіў адразу пасля арміі (распісаліся з ім яшчэ да прызыву на тэрміновую). Як пачаў адзначаць дэмбель, так і не мог спыніцца. Навучыўся ён піць у арміі — вось табе і школа выхавання. Прафесіі набыць не паспеў. Паедзе да бацькоў у вёску, набярэ сала, а на гарэлку цягнуў з Алены. Ну, яна і падала на развод, балазе сумесна нажытага дабра не было ніякага і дзяліць не было чаго.

Другі быў шафёрам, але і работа не перашкаджала яму набірацца да чорцікаў. Асабліва ў выхадныя. У рабочыя дні Алена бачыла яго рэдка, чакала суботы, каб хоць нешта зрабіў па гаспадарцы, але дзе там. Сябры, чарка, у лепшым выпадку тэлевізар. А потым пачалі трэсціся рукі. Без апахмелкі ўжо не мог ісці на работу. Пазбавілі правоў, перавялі ў качагарку. Наогул запіў па-чорнаму. Качагарка зрабілася для яго родным домам. Сюды часцяком зазіралі такія ж таварышы расціснуць бутэльку-другую, і гаспадару заўсёды перападала. Лафа.

Алена была тады цяжарная, цяжарнасць праходзіла складана, было не да вартавання мужа. А калі нарадзіла і той не прыйшоў, а прыпоўз у бальніцу з бутэлькай «чарніла», вырашыла развесціся. Што і зрабіла.

Адначасова дала сабе слова ні пры якіх абставінах замуж больш не выходзіць. Хоць бы і за міністра.

Міністр не міністр, але трэці жаніх аказаўся начальнікам, хоць і невялікім. Прарабам на будоўлі, дзе Алена працавала кранаўшчыцай. Так атрымалася, што сынок (тады ўжо было яму сем гадоў) разбіў шкло на першым паверсе, дзе жыла адзінокая бабулька. Алена пабегла да прараба, ён не толькі даў шкло, але і машыну. І яшчэ мужыкоў занарадзіў, каб усё зрабілі як мае быць. І строга-настрага папярэдзіў: каб ніякага разліку ад жанчыны не патрабавалі.

Алена бачыла, што рабочыя на пляцоўцы ставіліся да яе неяк ненатуральна. Ніхто жартам не ўшчыпне, ніхто ў яе прысутнасці не мацюкнецца, што будаўнікам увогуле не ўласціва: не арыстакраты ж. Не ведала толькі, што прычына — у асобе прараба, дакладней, у яго пачуцці да яе. І толькі калі аднойчы заявіўся да яе дамоў з кветкамі, яна ўсё зразумела.

Жылі добра. Гэта пры ім, пры трэцім мужу, і кватэра стала чатырохпакаёвай, і мэбля нармальная з'явілася. Нарадзіла другога сына — і зноў бяда. Мужа-прараба пасадзілі. У іхняй арганізацыі рабілі рэвізію, не хапіла шмат фарбы і яшчэ нейкіх матэрыялаў, а было гэта тады, калі ў самым разгары знаходзілася андропаўская барацьба з непрацоўнымі даходамі. Прараб, магчыма, сам і не краў, цягнулі рабочыя, але кіраўніком на аб'екце быў ён, таму менавіта яго і пакаралі. Па максімуму.

Алена развялася з ім хутчэй ад злосці. І на яго, і на свой няўдалы лёс. Да таго ж маці-адзіночцы належалі нейкія льготы.

Вось такая перадгісторыя.

Пра тое, якім чынам усе гэтыя мужчыны вярнуліся да былой жонкі, размова асобная і заняла б шмат паперы. Скажу толькі, што ніхто з іх у адзінокім жыцці не знайшоў шчасця. Наадварот. Хапіла ўсім ліха. Прывезлі тузін хвароб — не да гарэлкі. На работу, праўда, уладкаваліся ўсе.

На языку ў мяне ўвесь час круцілася пытанне: з кім жа Алена жыве? Не можа быць, каб з усімі разам ці хоць бы там па чарзе.

Улавіўшы момант, калі мы засталіся адны, я набраўся нахабства і ўсё ж спытаў.

— А ні з кім, — проста адказала Алена. — З імі я сваё аджыла. Бялізну, калі папросяць, памыю, а ежу яны самі сабе гатуюць. За кватэру заплацяць і тое добра. Дый за аліментамі, як раней, бегаць не трэба.

Цікава, а як гэтыя былыя мужы, па сутнасці саапернікі ладзяць між сабой? За грудкі хапаюцца?

— Дзяліць ім ужо няма каго, — смяецца Алена. — Яны гэта добра ведаюць. Таму суіснуюць ціха-мірна. Да таго ж пры мне не ўжываюць. Я адразу папярэдзіла: заўважу каго выпіўшым — вылеціць адразу. А так што ж, месца мне не шкада.

Спрабавала Алена зрабіць абмен кватэры. Але патрэбнага варыянту, каб не пакрыўдзіць нечаканых «нашчадкаў», пакуль не знаходзіцца. Ды і старэйшы сын хутка вернецца з арміі. Раптам ажэніцца, куды ён тады?

Невытлумачальныя шляхі твае, Госпадзі.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## СЁННЯ

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Юліяна, Цярэнція**
**К. Альжбэты, Тэадора**

### МЕСЯЦ

**Поўня 1 ліпеня**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачна з праясненнямі, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Магілёве і Віцебску 19—21, Гомелі, Мінску — 21—23, Гродне — 22—24, Брэсце — 23—25 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак неба будзе такое ж: воблачнасць, праясненні, па паўночнаму заходу — кароткачасовыя дажджы, але цяпло не за гарамі — тэмпература паветра 5-га ўначы 9—15, удзень — 22—27, па паўночнаму захаду 18—23, а 6-га без ападкаў і тэмпература адпаведна 13—18 (уначы), а ўдзень — (парадуйцеся!) — 27—32 градусы вышэй нуля.

*Васіль ГУСТЫР, старшыня калгаса «Свіслач» Гродзенскага раёна*

# «ПАДМАНЕШ АДЗІН РАЗ ЗЯМЛЮ — ЯНА НАС ТАК ПАДМАНЕ, ШТО З КАЛЕНЯЎ НЕ ЎСТАНЕМ»

**Гутарка са старшынёй гаспадаркі, якая ні рубля не вінавата дзяржаве, акуратна выплачвае зарплату і працягвае будаваць аб'екты вытворчага і сацыяльнага прызначэння.**

**— Васіль Мікалаевіч, пасля вашага выступлення на нядаўняй нарадзе ў аблвыканкоме склалася ўражанне, што калгас «Свіслач» — быццам нейкі працвітаючы востраў у моры крызісу. Гэта сапраўды так?**

— Не скажу, што мы працвітаем, але працуем паспяхова. Нармальна правялі пасяўную — унесена больш мінеральных, арганічных угнаенняў. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ўраджай збожжавых расце не горш, чым у мінулым годзе, калі мы атрымалі 52 цэнтнеры з гектара. Думаю, што кармавая база ў нас будзе нармальная.

Пастаянна, з году ў год калгас павялічвае пагалоўе буйной рагатай жывёлы. Сёння маем на 100 галоў больш, чым на гэты ж час летась. Узрасла рэалізацыя ялавічыны.

Працягваем будаўніцтва. Ужо сабраны каркас новага цялятніка. Поўнасцю рэканструяваны склад на тысячу тон збожжа. Працягваецца рэканструкцыя жывёлагадоўчага комплексу. За тры апошнія гады заасфальтаваны вуліцы па ўсіх калгасных вёсках, пракладзена дзесяць кіламетраў унутрыгаспадарчых дарог з цвёрдым пакрыццём. Працягваецца газіфікацыя пасёлка. На месцы старой лазні пабудавана новая, побач з ёй у жніўні разлічваем адкрыць фельчарска-акушэрскі пункт. У меру сваіх сіл будуем жыллё. Летась купілі два трактары «МТЗ». І ўсё гэта — толькі за свае грошы, толькі за свае. Мы нічога не вінаваты дзяржаве.

**— А як з зарплатай калгаснікаў?**

— Зарплата выплачваецца рэгулярна. Летась сярэдні заробак за пяць месяцаў быў 504 тысячы рублёў, сёлета — 975 тысяч, а ў маі — 1304 тысячы рублёў. На кожны зароблены рубель штомесячна прадугледжана 75 капеек даплаты. Але не для кожнага. У мінулым годзе нядбайныя работнікі пазбавіліся 76 мільёнаў рублёў даплаты.

У нас няма такіх людзей, якія галадаюць і ходзяць з працягнутай рукой. Кожнаму, хто мае нейкае дачыненне да калгаса, спрабуем дапамагчы. Напрыклад, летась на аднаго работніка выйшла ў сярэднім больш чым па тоне збожжа. Двойчы яно выдавалася і пенсіянерам. Акрамя таго, я лічу, што самае вялікае пакаранне — гэта адмовіць жадаючаму папрацаваць пенсіянеру ў рабоце, калі яна ёсць. Скажам, чалавек усё жыццё рабіў у калгасе трактарыстам, цяпер мае 490 тысяч рублёў пенсіі. Што дрэннага ў тым, калі ён яшчэ мільён заробіць на пасяўной? Дарэчы, раней у нас налічваліся 42 трактарысты, а цяпер — 68.

**— І ўсё ж гаспадарка сёння жыве горш альбо лепш, чым пяць—дзесяць гадоў назад?**

— Як сказаць... Дзесяць гадоў назад, калі мы былі яшчэ саўгасам, на ўсё быў даведзены ліміт — і на зарплату, і на тэхніку, і на мінеральныя ўгнаенні. Вось вам, дапусцім, на год 30 тон цэменту — і ўсё. Трапіш у ліміт на будаўніцтва — добра, не — дык не, бо хіба праб'еш ілбом гэту сістэму... А што датычыць прыбытку, дык вось вам, маўляў, з яго па акладу прэміі, а ўсё астатняе мы ад вас забяром. Словам, ні аб чым не трэба было думаць, усё вырашалася наверсе. Цяпер жыць стала прасцей і зручней. Былі б грошы. А калі ёсць зямля, ёсць калектыў, то і грошы будуць.

**— Тым не менш, ад многіх з вашых калег мы чуем зусім адваротнае. Маўляў, і таго няма, і гэтага не хапае, усюды пагібель... У чым жа справа?**

— Я неаднойчы над гэтым задумваўся. І прыйшоў да высновы, што наша шчасце, магчыма, у тым, што мы не ўзяліся, як многія, хапаць крэдыты. У 1992-93 гадах дзесяткі маіх калег пайшлі ў банкі і бралі там столькі, колькі давалі. Ім здавалася, што заўтра, як і раней, усе даўгі спішуць. Але ў канчатковым выніку аказалася, што за ўсё трэба расплачвацца.

інтэнсіўнай тэхналогіі. А вось што датычыць астатняга, той жа агародніны — тут ужо пакупнік зусім не гарантаваны, сам думай, як прадаць. Раней як было? Не бяруць агародніну на базе — прыходзіш у абком партыі. Там стукнуць кулаком па стале: маўляў, чаму, сукіны дзеці, не берацe вырашчаную прадукцыю? Зараз жа ўзяць! А цяпер не, рынак. Думай, шукай такога пакупніка, які здольны не толькі ўзяць тваю прадукцыю, але і своечасова разлічыцца.

Альбо паглядзіце, колькі навокал зачынена фермаў. Няма даяркі — ліквідуюць групу кароў і ўсё, ніякіх праблем. Мы ж нічога не зменшылі, наадварот, ідзём з плюсам. У нас, напэўна, самая высокая ў вобласці шчыльнасць кароў на 100 гектараў сельгасугоддзяў. Усё гэта абарочваецца дзесяткамі мільёнаў рублёў у калгасную касу.

**— Якія ж рэформы вы дзеля гэтага ажыццявілі?**

— Я ведаю некаторых «рэфарматараў», якія ўжо паклалі, як кажуць, на лапаткі свае гаспадаркі. Цяпер іх зменшчыкі расхлёбваюцца з вынікамі «рэформаў». Я ж лічу, што ад дабра дабра не шукаюць. Уважліва сачу за газетамі, тэлебачаннем і радыё. Заўважце, ніхто з нізоў, з калгаснікаў не сказаў, што трэба нешта рэфарміраваць. Заўсёды за нас думаюць гараджане — вучоныя мужы, журналісты. Як гаворыцца, думкі з асфальту. Маўляў, давялі беднага калгасніка, хутка ён канцы аддасць. Але вы скажыце, якое прадпрыемства можа нармальна жыць, калі на ім няма элементарнага парадку?

Мне штодзённа даводзіцца паўтараць і спецыялістам, і іншым калгаснікам, што за нас сёння ніхто нічога не зробіць. Трэба спадзявацца толькі на свае сілы, толькі на сваю зямлю. Нельга абы-як працаваць на зямлі. Падманеш яе адзін раз — яна тады нас так падмане, што з каленяў не ўстанем. Пакуль гэтаму прынцыпу не здраджваем. Хаця праблем, вядома, мноства.

Чаго варта толькі прадаць тое, што вырашчана? Сёння дзяржава без праблем купляе хіба што збожжа. Дай яго ў неабмежаванай колькасці — усё забяруць. Не выпадкова летась мы прадалі столькі збожжа з гектара сельгасугоддзяў, колькі, напэўна, не прадаў ніхто з вобласці. Прычым з 1650 тон 1010 прыпадае на пшаніцу, якая вырошчваецца толькі па

**— Што патрабуецца, каб такіх гаспадарак, як ваша, было больш?**

— Трэба, каб краіна была багатай. Усё ў гэтым свеце ўзаемазвязана. Заводы не працуюць — падаткаў няма. Няма падаткаў — адсутнічае зарплата ў настаўнікаў. У нас ніводны не кінуў школу, а ў іншых месцах колькі настаўнікаў пераключылася на камерцыю! А гэта адбіваецца на выхаванні дзяцей.

Працаваў бы ўвесь гаспадарчы механізм — якія пытанні былі б па калгасах? Прадпрыемства працуе — людзі жывуць лепей, больш купляюць. Грошы хутчэй вяртаюцца на вёску. А сёння... У горадзе стаіць чарга, таму што мы прадаём агуркі на тысячу танней, чым у прыватніка альбо ў дзяржгандлі. Але ж бяруць кілаграм, ад сілы паўтара. Бо ў людзей няма грошай.

Гэта глабальная праблема. А паглядзець на так званыя «дробязі». Здавалася б, рынак, канкурэнцыя павінны зрабіць безадказную працу падобнай на самазабойства. Не, па-ранейшаму куды ні кінь позірк, працвітае халтура. У многіх выпадках стала нават горш, чым было. Узяць, напрыклад, рамонтныя заводы. Раней быў нейкі тэхнагляд. Выклікаў яго — да бракароба прымяняць штрафныя санкцыі. Цяпер паскардзіцца няма каму, ніхто не ўспрымае тваю скаргу ўсур'ёз. Скажам, заплацілі мы 37 мільёнаў за рамонт рухавіка, аднак пасля гэтага не працавала ніводная фарсунка. Паехалі на завод — ніякай рэакцыі. Самім давялося купляць помпу і мяняць усе фарсункі. А нейкага «трацейскага суддзю» знайсці немагчыма. У выніку бракароб працягвае няхай за мізэрную плату, але трымацца «на плаву». Хаця павінна быць так: паступіла з калгаса адна скарга, другая — усё, няма цябе, закрылі. Для гэтага патрэбны жорсткія законы і жорсткая ўлада. Само сабой, улада не паліцэйская, а законная. Тады будзе толк.

**— Дарэчы, каму належыць рэальная ўлада ў вашым пасёлку?**

— Гаспадаром павінен быць сельскі Савет. Аднак рэальна за жыццё пасёлка адказваюць два размешчаныя тут прадпрыемствы — калгас і племптушкарэпрадуктар «Юбілейны». Праўда, цяпер для апошняга не лепшыя часы. Працавіты калектыў, у якім шмат выдатных спецыялістаў сваёй справы, ледзь трымаецца — няма кармоў, вялікія даўгі па ўзятых крэдытах. Таму без пахвальбы, ільвіная доля затрат па камунальнай гаспадарцы пасёлка сёння прыпадае на калгас.

**— Так будзе і далей?**

— Аб'яднанне па птушкаводству ставіць перад уладамі пытанне наконт выдзялення фабрыкам калгаснай зямлі, каб яны маглі атрымаць кармы і неяк існаваць. На гэта я катэгарычна адказаў, што ў нас лішняй зямлі няма, таму што кожны чалавек для нас дарагі і выкарыстоўваецца стопрацэнтна. Выдзеліць камусьці 100—150 гектараў — гэта для нас занадта, бо азначае сур'ёзнае падзенне вытворчасці. Аднак, наколькі мне вядома, за нашай спінай у вярхах працягваюць мусіраваць ідэі адносна выратавання «Юбілейнага» з удзелам ці нават за кошт калгаса. Выказваюцца думкі, каб нас зноў зрабіць саўгасам і нейкім чынам далучыць да племптушкарэпрадуктара. На гэты варыянт, калі ён існуе, мы ніколі не згодзімся. Хаця і не адмаўляемся працаваць у адной звязцы з птушкаводамі.

Галоўнае тут — каб улічваць інтарэсы не нейкага ведамства, а двух працоўных калектываў, каб кожнаму з іх жылося лепей. Тады і дзяржава будзе ў выйгрышы.

Альбо вось яшчэ прыклад з той жа «оперы». Ёсць у пасёлку сталовая. Гадоў дзесяць назад санстанцыя зачыніла яе як не адпаведную неабходным нормам. А людзей жа карміць трэба, вось і ўзяліся мы за будоўлю. Сяк-так за тры гады пабудавалі зусім новае, удвая шырэйшае памяшканне. Райспажыўсаюз аснасціў новым абсталяваннем — можна працаваць. Аднак пакуль будавалі-перабудоўвалі, настаў рынак і ў сталовую пачалі хадзіць па пяць—сем чалавек у дзень. Сёлета яна яшчэ не адчынялася. Вялікі будынак пустуе, і толькі ў адным закутку нешта прадаюць. За мінулы месяц прадаўшчыца атрымала ажно 120 тысяч рублёў. Адна радасць ёй, што цяпер лета, бо зімой было б загадана адключыць цяпло, паколькі за яго няма чым плаціць.

А тым часам вяселлі і памінкі праводзяцца ў школьнай сталовай. Да таго ж у пустуючым будынку можна было б наладзіць адпачынак моладзі, каб не швэндалася па вуліцах. Мы просім райспажыўсаюз перадаць калгасу за яго сродкі, яго матэрыяламі і тэхнікай пабудаванае памяшканне. Не, і самі не выкарыстоўваюць, і нам не дазваляюць.

**— Васіль Мікалаевіч, ці апасаецеся вы, што ва ўмовах агульнага крызісу ў эканоміцы справы «Свіслачы» ў перспектыве будуць такія ж сумныя, як і ў вышэйпамянёнай сталовай?**

— Ведаеце, нейкая трывога ёсць. Можа, і сапраўды песімісты маюць рацыю. Аднак, як гаворыць мой сусед, старшыня СКП «Кастрычнік» Віталь Крымко, мы ўсё ж загінем не апошнія. Мы не згодны, будзем змагацца да канца. І пакуль у нас ёсць зямля-карміцелька, разумныя галовы і мазолістыя рукі людзей, я веру ў лепшае.

**Гутарку вёў Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*НАДЗЁННАЕ*

# КРЫМІНАЛ І ЎЛАДА

**Чарговая сесія Магілёўскага абласнога Савета была прысвечана пытанням барацьбы са злачыннасцю. Каб не стамляць чытача выкладаннем сухога афіцыёзу, прапануем некалькі эпізодаў з практыкі народнага засядацеля, а ў якасці каментарыя да іх — урыўкі з матэрыялаў сесіі.**

## ЕХАЎ ДА КАХАНАЙ — ТРАПІЎ ДА «ПАХАНА»

Апоўначы на аўтобусным прыпынку, што па праспекце Міру, акрамя іх, чацвярых мужчын, не было нікога. І ўсе знаходзіліся пад «шафэ». Андрэй — самы малодшы — стаяў, прыхіліўшыся да электрычнага слупа. Аўтобуса ўсё не было.

— Ну што, братва, усе да Казіміраўкі? Давайце тады скінемся на тачку, — прапанаваў здаровы дзяцюк.

Сабралі па пяць тысяч. Неўзабаве падрулiла таксі. Ініцыятар ускочыў на пярэдняе сядзенне, астатнія ўціснуліся на задняе. Паехалі. Але каля бензазаправачнай станцыі арганізатар паездкі раптам папрасіў вадзіцеля спыніцца, а ўсім астатнім загадаў выйсці з машыны.

Выйшлі.

Адзін з пасажыраў пехатой паклыпаў дамоў, за ім нецвярозым крокам падаўся другі. Адышоў недалёка. Яго зваліў моцны ўдар таго самага дзецюка, які агітаваў скінуцца на тачку.

— Дапамагай, чаго стаіш, — крыкнуў ён Андрэю. — Забяром грошы і куртку.

І той падпарадкаваўся. Нібыта зомбі. Біў нагамі, а затым дапамагаў рабаўніку распранаць ахвяру.

Нечакана з'явіўся міліцэйскі нарад. Завадатар даў цягу. Астатніх даставілі ў Цэнтральны РАУС. Андрэя, як саўдзельніка разбойнага нападу, затрымалі.

Андрэю Булахаву ўсяго дваццаць гадоў. Мінулай восенню прыйшоў з арміі. Адтуль мае станоўчую характарыстыку. І пасля службы не стаў лайдачыць. Адразу ж уладкаваўся на работу маляром у вытворчае аб'яднанне «Магілёўэнерга». Там таксама нічога дрэннага за ім не заўважалі.

Спахмурнеў, асунуўся бацька, у роспачы маці. Яны, рабочыя людзі, усё жыццё пражылі з уласнай капейкі, гэтаму ж вучылі сына. Таму ніяк не могуць зразумець, чаму так павёў сябе сын, што з ім здарылася.

Чаму? Не змог адказаць на гэта пытанне і сам Андрэй, калі яму задавалі пытанні ўжо ў судзе. Віну ён сваю прызнаў, аднак усё паўтараў, што добра выпіў, меў намер наведаць знаёмую дзяўчыну, а тое, што стаў удзельнікам разбою, — выйшла неяк само сабой.

**ДАВЕДКА**. П'янства, як адзначыў у сваім выступленні начальнік УУС аблвыканкома Мікалай Лапацік, сур'ёзна паразіла грамадства і асабліва моладзь, спайванне якой дасягае сацыяльна небяспечных памераў. Сістэмы процідзеяння п'янству няма. Структуры, якія раней гэтым займаліся, распаліся. Няма камісій па барацьбе з п'янствам, няма саветаў прафілактыкі. Да таго ж у шэрагу месцаў прымаюцца актыўныя спробы закрыць медвыцвярэзнікі — апошняе звяно ў барацьбе з п'янствам.

Тым часам з-за алкагалізму адбываецца большасць злачынстваў, у тым ліку разбойных нападаў.

Наогул злачынныя праяўленні супраць асобы імкліва ўзрастаюць. Узмацняюцца дзёрзкасць і ўзброенасць злачынцаў, актывізуецца дзейнасць бандыцкіх груп, якія спецыялізуюцца на грабяжах і разбоях. У Бабруйску і аднайменным раёне выкрыты дзве такія групы. Рабілі напады на кватэры грамадзян і на «дальнабойшчыкаў» — вадзіцеляў транзітнага транспарту. Нядаўна арыштавалі банду, якая тэрарызавала састарэлых грамадзян у Шклоўскім, Дрыбінскім раёнах і ў Магілёве. Усяго ж сёлета ў вобласці ўчынены 52 разбоі, многія з якіх суправаджаліся прымяненнем зброі.

Дарэчы, за мінулы год і пяць месяцаў сёлетняга міліцыя канфіскавала 1324 адзінкі агнястрэльнай зброі, каля 10 тысяч боепрыпасаў.

## АДДАЙ РУКАМІ — ХАДЗІ НАГАМІ

Дзянісу Шэбусаву васемнаццаць. Нідзе не працуе. На Цэнтральным рынку прыслужваў тым, у каго ёсць чым гандляваць.

Надакучыла. Падаўся бліжэй да Мінска. Але і там лёгкага хлеба не знайшлося. Тады пачаў «чысціць» дачныя ўчасткі ў Смалявіцкім раёне. Краў у асноўным цыбулю і прадаваў. Злавілі, судзілі. Улічваючы раскайванне, суд прыгаварыў яго да года пазбаўлення волі з выпрабавальным тэрмінам.

Дзянісу, аднак, не хацелася працаваць і пасля гэтага. Праз Канстанціна Снытко пазнаёміўся з пятнаццацігадовым Вячаславам Падалінскім, якому маці купіла відэамагнітафон за 3,5 мільёна рублёў.

— Слава, пазыч, хачу касеты перапісаць, — прычапіўся да юнака Дзяніс.

Але Вячаслаў без дазволу маці такую просьбу задаволіць не мог. Тады Дзяніс пайшоў на хітрасць. Паабяцаў за паслугі пяць касет і запэўніў, што раніцай, калі маці вернецца дамоў (працавала ў начную змену), магнітафон будзе на месцы.

Алена Віктараўна адразу ж заўважыла знікненне каштоўнай рэчы. Вячаслаў прызнаўся, і яны два дні займаліся пошукамі Дзяніса. Безвынікова. Тады звярнуліся ў міліцыю. Дзяніса знайшлі. Аказваецца, відэамагнітафон ён ужо прадаў. Па-дзяшоўцы. За нейкі мільён.

«Далі» Дзянісу Шэбусаву тры з паловай гады пазбаўлення волі. Нягледзячы на тое, што суду даказваў, быццам нарэшце зразумеў: бясплатны сыр бывае толькі ў мышалоўцы.

**ДАВЕДКА.** Крэдыт (пазыка) — такая сфера, дзе зламыснікі адчуваюць сябе як рыба ў вадзе. Кастрычніцкім РАУС расследуецца справа ў адносінах да прадпрымальніка Шумскага. Падманным шляхам ён атрымаў у ААТ «Белказмет» грошы і матэрыяльныя каштоўнасці на 377,5 мільёна рублёў, не вярнуў іх і знік. Ён жа, выкарыстоўваючы малое прадпрыемства «Манеж», прадаставіў у філіял «Пріорбанка» падложныя дакументы на 360 мільёнаў. Грошы ў кішэню — шукай ветру ў полі.

Гэта вам не наіўны Дзяніс з чужым «відзікам». Хаця механіка тая ж: дай — потым вярну.

Прыкладаў такіх афёраў не злічыць. Страты ад дзейнасці злачынцаў у фінансавай сістэме вобласці склалі за 5 месяцаў 8(!) мільярдаў рублёў.

Спадар Лапацік прывёў і такі факт.

Небезвядомы камерсант Кліменка ўзяў у аб'яднання «Мясамалпром» 350 тон масла на рэалізацыю. Ні масла, ні грошай: 770 тысяч долараў ЗША.

## ЗЛОДЗЕЙ ПАНЯВОЛІ

На гэты раз суддзі былі ў шоку. Абвінавачваўся грузчык аднаго з прадуктовых магазінаў у крадзяжы ... пачка макаронаў.

— А што мне заставалася рабіць, — гаварыў падсудны. — Зарабляю ўсяго 600 тысяч. Жонку звольнілі, нідзе не працуе. Двое малалетніх дзяцей, якім я ўжо забыў, калі купляў цукеркі. Каторы месяц жывём на адной бульбе...

**ДАВЕДКА.** За рысай беднасці — амаль усё насельніцтва. Гэта тая глеба, якая сілкуе злачыннасць. Сцягнуць з чалавека куртку, пазычыць і не аддаць, паквапіцца на кавалак чужога хлеба — такія норавы. Такое жыццё. Дыктуе яно — не мы.

Што да сесіі, што да ўладаў — яны канстатуюць. «Палепшыць», «узмацніць» — ну каму ад гэтага лепш?

Караван, словам, ідзе.

**Аляксандр РАБЦАЎ,**
**засядацель народнага суда Цэнтральнага раёна г. Магілёва.**
**Васіль ЛЕЎЧАНКА,**
**уласны карэспандэнт «Звязды».**

## РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...Зарэгістравацца на біржы працы

**БЫЦЬ БЕСПРАЦОЎНЫМ — справа вельмі клапатлівая. Прастаяўшы многа гадзін у чэргах ля кабінетаў цэнтра занятасці насельніцтва, паштурхаўшыся ў душных калідорах ты раптам даведваешся ад інспектара, што ўсе твае мукі марныя: у тваёй Працоўнай кніжцы ўказаны не той артыкул, або даведка прадстаўлена не той формы, а то і наогул сабраны не ўсе дакументы, каб зарэгістравацца на біржы працы. Атрымліваецца, што каля двух месяцаў ідзе толькі на тое, каб абысці ўсе кабінеты, сабраць усе паперкі і стаць на ўлік. А чалавек, які аказаўся ў становішчы беспрацоўнага, як правіла, безабаронны: прававая непісьменнасць плюс зведваемы ім стрэс робяць яго менавіта такім.**

**Дай Бог нікому не аказацца ў гэтым становішчы, але ўсё ж калі здарылася бяда, майце на ўвазе:**

**запіс у Працоўнай кніжцы**

— У працоўнай кніжцы прычына звальнення павінна ўказвацца ў дакладнай адпаведнасці з фармулёўкамі дзеючага заканадаўства і са спасылкай на адпаведны артыкул, пункт закона (звольнены ў сувязі са скарачэннем колькасці работнікаў ці ў сувязі з ліквідацыяй прадпрыемства — п. 1 арт. 33 КЗаП);

**памер выхадной дапамогі**

— у вышэйназваных выпадках пры выслабаненні работніка яму выплачваецца выхадная дапамога ў памеры не менш трохразовай. Пры звальненні па п. 1 арт. 33 захоўваецца няспынны працоўны стаж на працягу трох месяцаў з дня звальнення.

**Для рэгістрацыі беспрацоўны абавязаны прад'явіць наступныя дакументы:**

— пашпарт (пасведчанне аб нараджэнні);

— Працоўную кніжку ці дакумент, які яе замяняе;

— ваенны білет (для звольненых з радоў Узброеных Сіл);

— дыплом ці іншы дакумент аб адукацыі, кваліфікацыі, яе павышэнні, прафесіянальнай падрыхтоўцы ці перападрыхтоўцы;

— даведку аб сярэднямесячнай заработнай плаце (даходзе) за апошнія два месяцы па ўстаноўленай форме (майце на ўвазе, што менавіта яна становіцца прадметам спрэчак у бухгалтэрыі службы занятасці);

— дэкларацыю аб даходах;

— даведку ваенкамата з указаннем грашовага забеспячэння на апошняй штатнай пасадзе (для звольненых з радоў Узброеных Сіл);

— копіі пасведчанняў аб нараджэнні дзяцей (для асоб, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў, дзяцей-інвалідаў да 16 гадоў);

— дакументы аб памеры дапамог і кампенсацый (для асоб, якія атрымліваюць дапамогі (за выключэннем дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей) або кампенсацыі за ўрон, нанесены здароўю калецтвам ці іншым пашкоджаннем, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў);

— даведку аб вызваленні (для асоб, вызваленых з месцаў пазбаўлення волі);

— эвакуацыйнае пасведчанне (для асоб, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС);

— даведку аб прадастаўленні магчымасці самастойнага працаўладкавання або адмове ў прыёме на работу ў адпаведнасці з заяўкай ці дагаворам на падрыхтоўку (для выпускнікоў навучальных устаноў);

— рэкамендацыі медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій і даведка аб памеры пенсіі па інваліднасці (для тых, хто атрымлівае ўказаную пенсію);

— даведку аб памеры пенсіі за выслугу гадоў (для тых, хто атрымлівае ўказаную пенсію).

У асобных выпадках па патрабаванню цэнтра занятасці дадаткова прадстаўляюцца:

— даведка аб прафесіянальнай падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы ці павышэнні кваліфікацыі за апошнія два гады перад выслабаненнем;

— медыцынскае заключэнне (асобам, якія маюць абмежаванні па стану здароўя).

Такім чынам, калі ўсе дакументы сабраны, самы час накіроўвацца да юрыста (зрэшты, з яго лепш за ўсё пачаць, таму што закон пішацца для ўсіх адзін, а сітуацый — сотні).

Юрыст дапаможа вам зарыентавацца ў працоўным заканадаўстве і растлумачыць вашы правы.

**Матэрыяльная дапамога.**

Акрамя дапамогі па беспрацоўю, беспрацоўнаму таксама можа аказвацца неаднаразова матэрыяльная дапамога з улікам яго матэрыяльнага становішча як у перыяд атрымання дапамогі, так і пасля яе заканчэння.

**Пазыкі, субсідыі.**

Беспрацоўным грамадзянам, якія зарэгістраваны ў службе занятасці і жадаюць заняцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, прадастаўляецца магчымасць атрымання субсідый і пазык для забеспячэння самазанятасці. Але не варта забываць, што біржа працы — арганізацыя, праз якую праходзяць сотні людзей са сваімі бедамі і праблемамі, якія, зразумела, «выліваюцца» ў сваю чаргу і на яе інспектараў. А таму ў атмасферы нервознасці лепш паберагчы сябе і іншых. Ну а калі вам усё ж пашчасціла з першай спробы ўладзіць на службе занятасці ўсе свае справы — можаце смела лічыць сябе шчаслівуцам. І дай вам Бог надоўга тут не затрымлівацца...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ...Наведаць салон прыгажосці

**КАМУСЬЦІ МОЖА ПАДАЦЦА, што гэтая тэма не своечасовая, і будзе мець рацыю. Праўда, часткова. Чаму б не паспрабаваць нешта змяніць, калі не вакол сябе, то ў сябе самой ці ў самім: сустракаюць усё ж такі па вопратцы.**

Пачнём з адной са шматлікіх цырульняў Заводскага раёна — паслуг там няшмат, а цэны сціплыя, ды і вядомыя большасці мінчан па зразумелых прычынах (прыводзяцца для параўнання і нагляднасці). Мадэльная стрыжка ў жаночай зале каштуе 23.000 рублёў; меліраванне на кароткія валасы — 47.700, а на доўгія — 62.300, завіўка без стрыжкі і ўкладкі — 79.800 і 110.000 рублёў — са стрыжкай і ўкладкай, пазбаўленне колеру валасоў з іх лячэннем — 38.200, манікюр — 19.200 рублёў.

А цяпер пра тыя ж паслугі ў салонах на прыкладзе «Фантазіі» (выбар, заўважу, выпадковы; цэны супастаўныя з тымі ж у іншых салонах горада). Стрыжка каштуе 41.700 (даўжыня валасоў да 25 см) і 57.000 (да 40 см) рублёў; стрыжка з завіўкай: 136.000 (да 15 см), 147.100 (да 25 см), 231.300 (да 40 см); меліраванне абыдзецца ў 54.700—57.700—89.700 рублёў адпаведна; афарбоўка валасоў: 46.700—48.700—59.700. Усе цэны на паслугі прыведзены з улікам мыцця галавы, сушкі, скарыстання прэпаратаў для лячэння валасоў і да т. п. Манікюр каштуе 21.000, педыкюр — ад 60.000 да 100.000 рублёў (на замежнай апаратуры).

Некаторыя салоны аказваюць паслугі, не прадугледжаныя ў стандартных цырульнях. У касметычным кабінеце вам зробяць маску за 55.000, выдаляць валасы воскам за 50.000—60.000 рублёў. Чыстка скуры рукамі каштуе 70.000 рублёў, а вакуумная — 100.000. Масажны кабінет салона «Фантазія»: агульны масаж за 120.000, лячэбны — ад 70.000, карэкцыя фігуры — 55.000 за сеанс (мінімум 10 сеансаў). І салярый: 20 хвілін — 140.000, 40 хвілін — 240.000.

Вядома, роўны, без апёкаў загар круглы год даступны далёка не кожнаму, але на двары лета, і можна скарыстаць бясплатны ультрафіялет. Цэны ж на звычайныя паслугі як у цырульнях горада, так і ў салонах не адрозніваюцца больш чым у 2 разы. Пры гэтым трэба ўлічваць замежную парфумерыю і касметыку, апаратуру, якасць работы і адказнасць за гэтую якасць, а таксама добразычлівую, звычайна, атмасферу салонаў. Прыемна, калі пры ўваходзе да цябе адразу звяртаюцца з пытаннем: «Чым можам дапамагчы?».

Другая, не менш сур'ёзная праблема непапулярнасці салонаў у большасці жыхароў Мінска звязана з тым, што многім не прыходзіць нават у галаву думка паспрабаваць палепшыць свой знешні выгляд. Падабраць прычоску ў адпаведнасці з формай твару, структурай валасоў, удасканаліць макіяж, змяніць свой імідж. У рэшце рэшт, ад знешняга выгляду могуць залежаць поспехі не толькі ва ўласным жыцці.

Няхай не падумаюць мужчыны, што пра іх забыліся, — хіба гэта магчыма? Бяда ў тым, што пра не менш цудоўную, але больш моцную палову чалавецтва забылася само чалавецтва, г. зн. тая яго частка, якая жыве на тэрыторыі Беларусі. Усё сказанае вышэй яшчэ ў большай ступені актуальна для мужчын. І калі колькасць мужчынскіх залаў у цырульнях адпавядае колькасці жаночых, то ў якасці спецыялізаваных мужчынскіх салонаў мне рэкамендавалі толькі адзін — «Чарадзей», які з'яўляецца элітным, з адпаведна элітнымі цэнамі. Напрыклад, стрыжка з лячэннем валасоў каштуе 60.000 рублёў, укладка — каля 30.000, хімічную завіўку можна зрабіць за 30.000, а можна і за 96.000. Манікюр пацягне на 40.000, а педыкюр — на ўсе 60.000 рублёў.

Пра паслугі ў цырульні рабочага раёна: стрыжка — 20.000, укладка — 10.000, вось і ўсё, уласна кажучы.

**Вольга СТАЎРОЎСКАЯ.**

# ...Займець самыя шыкоўныя тэлепаслугі

**ПРЫХОДЖУ Я НЕЯК ДАДОМУ ў сярэдзіне дня, уключаю тэлевізар... і нічога не бачу. Не, тэлевізар у мяне добры — родны наш «Гарызонт», і справа не ў ім. Проста — цэнтральнаму тэлебачанню чарговы раз зрабілі «добрую паслугу». Бяру праграму перадач у газеце і бачу ўверсе паласы, перад праграмай — загаловак: «Рэжым работы ГРТ». Далей размешчаны графік трансляцыі, у якім прарэхі на паўдня. Прычым праграма сама па сабе поўная і паведамляе беларускаму тэлегледачу пра тыя перадачы, якія ён не зможа паглядзець.**

Не вельмі спадзеючыся на дзяржаўныя тэлеканалы, жыхары Мінска вырашаюць праблему тэлегаладання самі: нехта купляе відэамагнітафон, а нехта і сістэмы спадарожнікавага тэлебачання. І тады будынкі беларускай сталіцы паступова, як грыбамі, абрастаюць талеркамі парабалічных антэн. Вырашана, купляю сабе «талерку». Пацікавіўшыся рэкламай у прэсе і пабегаўшы па прапанаваных там адрасах, я разжыўся некалькімі «прайс-лістамі» фірмаў, якія гандлююць усё тым жа абсталяваннем, што нас цікавіць. А таксама папярэдне ўзбагаціўся некаторымі пачатковымі ведамі ў гэтай галіне. У Мінску «талеркамі» гандлююць: «SkyGrup», ТАА «НСТ», «Тэхназамежгандаль»... Спіс гэты далёка не прэтэндуе на паўнату. Не ведаю каму што, а мне падабаюцца ўмераныя цэны ў спалучэнні з дастаткова высокай якасцю. Няхай даруе чытач мой суб'ектывізм, але, па-мойму, гэтым патрабаванням адпавядае толькі «Тэхназамежгандаль». Паглядзім па іх цэнах, колькі павінны выкласці радавы мінчанін для таго, каб далучыцца да паслуг касмічнай сувязі. Самай важнай часткай установкі з'яўляецца, натуральна, прыёмнік СТВ, самы просты, здольны прымаць, між тым, 250 каналаў, «LASAT 3800» нам прапануюць за 122 долары ЗША.

Натуральна, што прыёмніку неабходна антэна, прычым, як высвятляецца, менавіта ад яе памераў і залежыць колькасць праграм, якія мы зможам глядзець, а таксама — і якасць адлюстравання. Самая маленькая «талерачка» дыяметрам 0,6 м каштуе 25 долараў, яна пакажа нам 12 каналаў якасна і яшчэ 15 «са снегам», у асноўным, музыка, спорт, навіны. Самая вялікая з прапанаваных 2,5-метровая — 450 долараў. Так званы канвертар, ці, як часта гавораць, галоўка антэны, у залежнасці ад узмацняючай здольнасці і дыяпазона частот, што таксама можа адбіцца на нашай «якасці і колькасці», абыдзецца нам ад 12 да 29 долараў. Карыснай рэччу ў нашай справе могуць стаць так званыя актуатары (актуатар — прыстасаванне, якое рухае антэну і накіроўвае яе на патрэбны спадарожнік). У спалучэнні з вялікай антэнай дае магчымасць прымаць да 90 каналаў(!) У залежнасці ад «рухомасці» антэны каштуюць яны ад 70 да 128 долараў ЗША. Нарэшце — апорнае прыстасаванне для антэны (тое, за што яе да сценкі прыладжваюць), у залежнасці ад памераў апошняй, будзе каштаваць: для самай маленькай — 15 долараў, а для самай вялікай 2,5-метровай — усё тых жа 150 долараў. Прыбаўце да гэтага ўсяго долараў 20 на ўсялякія спецыяльныя кабелі, без якіх таксама не абысціся, і карціна стане поўнай.

Асобна трэба расказаць пра дэкодэры. Справа ў тым, што калі мы набудзем установку за 900 долараў, дык, пакруціўшы нашай рухомай антэнай з актуатарам, убачым, што большасць самых цікавых праграм закадзіравана. Каб глядзець іх — неабходны дэкодэр і спецыяльная картка з кодам, якія павялічаць кошт нашай сістэмы ад 900 да 1500 долараў прыкладна. Выбірайце — што вам па зубах: 12 каналаў за 260 долараў, ці 90 — за 1500 долараў.

**Аляксей КНЯЗЕЎ.**

# ...Як ні банальна для газетчыка — з'ездзіць у камандзіроўку

**...УЖО НА ПЕРШЫМ ПРЫПЫНКУ** аўтобуса, у Плешчаніцах, пачынаю прызнаваць калег, г. зн. такіх жа камандзіраваных, прычым, як аказалася, куды больш спрактыкаваных, чым я. Чалавек сярэдніх гадоў хуценька пабываў на прыстанцыйным базарчыку, вярнуўся ў аўтобус з пластыкавым мяшэчкам хатняга тавару: «Заўсёды тут купляю. Танней, чым у магазіне, а смак які! На пяць дзён камандзіроўкі кілаграма якраз хопіць — у дадатак да хатніх харчоў. А то ў сталоўцы 20 тысяч аддай за абед, а потым глядзі, дзе яшчэ паесці. Дык і гэтага мала: праз тры дні пачынаеш за таблеткі хапацца».

Бывалы чалавек, як аказалася, меў рацыю. Менш 20-ці тысяч абед (сняданак, вячэра) не каштаваў, а ў дадатак — такія дыялогі:

— Нешта вашы макароны надта падсохлыя.

Праз невялікую паўзу — «крык душы» сталоўскай карміцелькі:

— Адкуль жа яны не будуць падсохлыя, калі па чатыры разы падаграваем? Людзі ў сталоўкі не ходзяць, а трымаць нешта гарачае заўсёды трэба. Ні заработку, ні падзякі!

Тое ж і з пірожнымі ў прыстанцыйным ларку ў Лепелі. У буфеце — гарачая гарбата, але без булак. У ларку ляжаць пірожныя. Ці свежыя, пытаюся. Ды даўно ўжо ляжаць, чэсна прызнаецца гандлярка. Лепш не браць. А чаму трымаеце, удакладняю, калі самі і антырэкламу робіце? Дык не ўсе пытаюць пра свежасць. Хто-ніхто так бярэ. А наогул купляюць мала.

Даводзіцца піць гарбату без дадатку. Затое назіраю за столікам побач цікавую сцэну. Дзед з бабуляй вяртаюцца ў вёску з базару (яйкі і масла прадавалі). Гандаль, відаць, прайшоў удала — дзед вясёлы і нешта ў кішэні пінжака трымае. Ідзе высвятляць, што ёсць з казённага харчу. Бабуля гучна папярэджвае: нічога не бяры, а то ўвесь даход прагуляем. А сама борздзенька дастае з сумкі паляндвіцу, вараныя яйкі, агуркі — нашто тая казёнка! Дзед вяртаецца з хлебам, па-гаспадарску ацэньвае абстаноўку на стале, зноў бяжыць да буфетчыцы:

— Дай, прыгажунька, шклянку.

А прыгажуньцы што за інтарэс даваць за так шклянку — бярыце, кажа, пластыкавую (як з-пад смятаны), 400 рублёў каштуе. Стары пакруціў той пластык — ну якая з яго карысць у гаспадарцы? Раз скарыстаў — і выкідвай. Доўга ўгаворвае буфетчыцу даць пакарыстацца шкляной пасудзінай. Тая — ні ў якую: трэба ж ёй нешта прадаваць!

Тут дзед бяжыць да майго століка, пытаецца, ці салодкая гарбата. Салодкая, кажу, гарачая і з лімонам. Смачная. Дзед — да прыгажуні: давай шклянку гарбаты! Гуляць дык гуляць. Частуе бабулю, потым сам — за бясплатна — карыстае пустую пасудзіну. Усім добра!

І так вось дзе ні глянеш — лічыць народ апошнюю капейчыну, не раскідваецца нават на прывычную дробязь.

Дарэчы, пра дробязь. Пераначаваўшы ноч у віцебскай гасцініцы (нумар на дваіх — па 68 тысяч з кліента. Тэлефон, тэлевізар, нават «відэаканал», як пазначана ў рахунку. Хаця які канал, калі прыходзіш пасяляцца ў 12 ночы і ад'язджаеш у 9 раніцы? Гэта твае праблемы — карыстай той сервіс, які паложана!) Дык вось, пераначаваўшы, іду на які перакус у гасцінічную харчкропку. Яна чамусьці прэс-барам называецца, іншых у гэты час (8.30 раніцы) няма. Гарачага — нічога, акрамя кавы. Учарашнія (у лепшым выпадку) бутэрброды. Нічога не зробіш, давядзецца браць, што даюць — цэлы дзень мусіш бегаць. Кава, бутэрброд, булачка — 12.700. Сярдзіта і нятанна. Рэшту з 20-тысячнай купюры ў касе даюць 100—200-рублёвымі паперкамі. Чаго, пытаюся, грошы такія несалідныя? Які кліент, адказвае малады бармен, такія і грошы. Самі бачыце, снедаць ніхто не ходзіць. Ходзяць па запалкі, вось драбязы і назбіралі.

Аказалася, што ў гасцініцы пры катастрафічным недахопе пастаяльцаў пасялілася нейкая замежная (ці змешаная) фірма. Таму на ўваходзе стаяць плячыстыя хлопцы (я траіх налічыла), якія пільна пускаюць у гасцініцу толькі тых, хто тут пражывае. Значыць, публіка з грашыма ў прэс-бар не пойдзе. А з камандзіраваных які навар — кожную капейку эканомяць, каб укласціся ў свае сутачныя. Сала сваё па нумарах паядаюць. Каб маглі агонь для прыкурвання самі здабываць, то і па запалкі б не хадзілі. Каменны век!

Ну, а каб не былі мае нататкі занадта гастранамічнымі, прапаную трохі паназіраць за чалавекам у дарозе. Тут адзіны паратунак для небагатага дарожнага люду — цягнік. Білет з Віцебска да Мінска ў агульным вагоне пасажырскага поезда каштуе 26.500, а ў аўтобусе — 80 тысяч. Таму можаце ўявіць, што робіцца ў пазначаным вышэй агульным вагоне. У Оршы яго бяруць штурмам — трэба заняць верхнія паліцы, каб можна было спаць. Мая дарога недалёкая — пяць гадзін да Мінска, цягнік прыбывае а палове 12-й — спаць не выпадае. А людзі едуць аж да Гродна, да іншых далёкіх прамежкавых станцый, ды ноччу. Хто на адпачынак, хто з адпачынку, хто на сесію (студэнцкую, не дэпутацкую). Мая суседка едзе класціся ў бальніцу. Яно б у плацкартным спакайней, зручней, але грошай лішніх няма.

Памятаю, у студэнцтве мы таксама захоплівалі верхнія паліцы агульных вагонаў начнога поезда, але толькі ў тым выпадку, калі не ўдавалася здабыць плацкарту — хто звяртаў увагу на розніцу ў рубель? Цяпер жа гэтая розніца выглядае так (у пасажырскім цягніку): у плацкартным вагоне — на 15, у купэйным — на 35 тысяч даражэй, чым у агульным. Плюс бялізна — 15 тысяч (можа, ужо і даражэй — цэны ўсё мяняюцца, і, як вядома, не ў меншы бок). Па дарозе наслухалася розных гісторый на тэму «спадарожны транспарт»: як даехаць да мэты і не заплаціць.

Адзінае, на што не давялося траціцца ў камандзіроўцы, дык гэта, даруйце, знакамітыя зручнасці. Па прычыне татальнай адсутнасці наяўнасці апошніх, ва ўсякім выпадку, у патрэбны момант у патрэбным месцы. Папіць соку ці там «Спрайту» — гэта калі ласка, нават дзе-нідзе лёгкія крэслы на тратуары пастаўлены. Як на іхнім Захадзе. З адной розніцай: на тым іхнім Захадзе ўсюды, дзе табе прапануюць папіць і паесці, няхай нават на вуліцы, ты можаш разлічваць на комплексны, найчасцей бясплатны сервіс (самі ведаеце што). А ў нас прынята лічыць, што людзі не тыя. Што ім па пад'ездах зручней. Людзей лаяць танней, чым, пардон, нужнікі будаваць.

Ці яшчэ адзін фрагмент з камандзіровачнай мазаікі. Як не на кожнай аўтобуснай станцыі — міжгародні тэлефон-аўтамат. Нават з кабінамі здараюцца. Нават спраўныя. Але паспрабуйце пазваніць з Магілёва, напрыклад, (ці Беразіно, ці Калінкавічаў, Бялынічаў і г. д.) туды, куды вам трэба: марна! Па простай прычыне: былыя «савецкія» 15-капеечныя манеткі даўно заменены жэтонамі. Якія прадаюцца, як вам паўсюль патлумачаць, на пошце. А пошта... ну вельмі проста: дайсці да плошчы, потым праехаць 3 прыпынкі, потым перайсці дарогу і падняцца на другі паверх. А ваш аўтобус толькі 15 хвілін стаіць? Не, на ўсё вам хвілін 40 патрэбна. Вось калі вам патрэбны жэтон на гульнявыя аўтаматы — калі ласка, гуляйце хоць да наступнага аўтобуса. У нас жа розныя ведамствы: тэлефон — ён сувязістам належыць, а вы, пасажыр, нам. У кожнага свой інтарэс.

Гэта я ў лагоднай такой манеры ўсё напісала. Дзяжурныя на аўтастанцыях прасцей адказваюць: не мая справа, рабіце, што хочаце. Мне за гэта не плацяць.

...Камандзіроўка — справа кароткая. Жыццё — даўжэйшае. Ці доўга яшчэ — штодзень як на вакзале?

**Людміла ВЕРАСНЁВА.**

# ШКОЛА Ў ЗАПОЛЛІ: ПАМІЖ МІНУЛЫМ І БУДУЧЫНЯЙ,

## або, Як дзеці вучацца каля печы і здаюць залік на стометроўку ў калідоры

**Той, каму хоць аднойчы даводзілася ехаць па Магілёўскай шашы, сярод сумнай аднастайнасці і невыразнасці пасёлкаў і вёсак, размешчаных уздоўж дарогі, напэўна, спыняў свой позірк кіламетраў за 35 ад сталіцы на стройнай шарэнзе цагляных домікаў-катэджаў з чырвоным чарапічным дахам, якія выдзяляюцца сваёй індывідуальнасцю.**

**Дамы гэтыя належаць калгасу «Беларусь» Чэрвеньскага раёна, па ініцыятыве якога ў 1988 годзе ў вёсцы Заполле быў пабудаваны пасёлак для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Беглы позірк з дарогі дае падманнае ўяўленне аб дабрабыце і добраўпарадкаванасці жыцця людзей, якіх лёс закінуў у гэты куток Беларусі. Але варта толькі адхіліцца ад намечанага машруту, з'ехаць з дарогі і накіравацца ў глыб вёскі, як знешні бляск пачне цмянець...**

Маю ўвагу ў яе цэнтры прыцягнула група дзяцей, якія гулялі ў двары за агароджай. У якім двары, я тады яшчэ не ведала. Але, мінаваўшы разам са старшынёй Смілавіцкага сельсавета Валянцінай Півавар веснічкі (каб быць больш дакладнай, тое месца, дзе яны, па ідэі, павінны знаходзіцца), мы апынуліся, як высветлілася, на школьным двары. Прызнацца, здагадацца аб гэтым было даволі складана. Перада мной паўсталі чатыры аднапавярховыя будынкі: тры цагляныя і адна драўляная хата. Выбраўшы будынак больш «прыстойны», мы пераступілі яго парог. Сустрэча з дырэктарам Запольскай базавай школы Аленай Паўлаўнай Аўраменка аказалася даволі змястоўнай.

Як высветлілася, будынак, у якім мы знаходзіліся, быў пабудаваны ў пачатку 60-х гадоў. І да перасялення чарнобыльцаў, нягледзячы на свой, мякка кажучы, непрэзентабельны выгляд, усё ж яму ўдавалася выконваць сваю асноўную функцыю навучальнай установы і размяшчаць неабходную колькасць вучняў — каля 100 дзяцей. Але пасёлак разросся, а вучэбныя плошчы засталіся ўсё тыя ж. Сёння тут вучацца ўжо 204 дзіцяці, але і гэта яшчэ не мяжа. На наступны навучальны год чакаецца папаўненне — мяркуецца адкрыць два першыя класы, значыць колькасць дзяцей узрасце да 220 чалавек. Сказаць у гэтай сітуацыі, што школа перапоўнена, — значыць нічога не сказаць. У асноўным будынку знаходзіцца цяпер 8 класных пакояў. Адным з іх настаўнікі карыстацца проста не адважваюцца: справа ў тым, што столь у ім літаральна прагнулася пад цяжарам двухсотлітровага бака ацяплення, размешчанага наверсе. Ды і іншыя памяшканні настолькі малыя, што ніякія санітарныя нормы ні па размяшчэнню партаў, ні па асвятленню тут не вытрымліваюцца. Але, на жаль, штогадовыя «петыцыі» санстанцыі, якія ўказваюць на іх невыкананне, нічога рэальна змяніць не могуць. Ну і што з таго, што працякае столь... Пабелка сыплецца? Прагінаецца падлога? Не выдзяляюцца грошы на рамонт? Але ж будынак аварыйным да гэтага часу не прызнаны! Такім чынам, на практыцы яшчэ раз пацвярджаецца ўсім вядомая сумная ісціна: пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца. Але ж вельмі дарагой можа аказацца яе цана.

Ці варта ўзгадваць, што ў такой цеснаце не можа быць і размовы аб гурткавой рабоце, што навагоднія святы тут арганізуюцца ў чатыры прыёмы, спортзала цэлы год знаходзіцца пад адкрытым небам, а стометроўкі дзеці здаюць у школьных калідорах? Я думаю — варта. Варта хоць бы таму, што нягледзячы ні на што, вучні гэтай школы займаюць першыя месцы на раённых спартакіядах, а выдатнікі пацвярджаюць свае веды пры паступленні ў ВНУ. І яшчэ таму, што выхаванне ў дзіцяці пачуцця прыгожага заўсёды пачынаецца з рэчаў, якія яго акружаюць. Прызнаюся, складана разважаць аб прыгожым, знаходзячыся ў вучэбным пакоі для першакласнікаў, размешчаным у былой вясковай хаце. Хіба можа дзіця адчуваць сябе ўтульна ў пакоі, дзе яму нельга павярнуцца: на 35 кв. метрах тут займаецца 18 чалавек. Ці тое яшчэ будзе ў будучым навучальным годзе, калі школа атрымае «дабро» на адкрыццё двух першых класаў, але не знойдзе дадатковых памяшканняў для навучання. На гэтую ж плошчу будуць «уціснуты» ўжо 25 чалавек, а то і больш.

Два іншыя будынкі Запольскай школы адведзены пад майстэрні і сталовую. Трэба заўважыць, што «сталовая»—вельмі гучна сказана. Для таго, каб умясціць сюды пабольш дзяцей, тут уздоўж сталоў пастаўлены не крэслы, а лаўкі, і ўсё роўна кормяцца дзеці на ўсіх перапынках.

У гэтай сітуацыі здзіўляешся цярплівасці вучняў і іх настаўнікаў. А чакаюць яны даўно абяцанай ім школы, якая была запланавана па праекту, але ў сувязі з адсутнасцю грошай так і засталася недасягальнай марай. Затое калгасам было пачата будаўніцтва шыкоўнага клуба з канторай, якое, праўда, было прызнана справай неперашараднай важнасці, а таму было вырашана перапрафіляваць гэты будынак пад школу. На гэтыя мэты было выдзелена 330 млн. рублёў. На тым «будаўніцтва»(было зроблена толькі перапланаванне памяшканняў пад класы) і завяршылася. А між тым, двухпавярховы будынак з васемнаццаццю класнымі пакоямі, спартыўнай і актавай заламі, стаў бы рэальным вырашэннем даўно наспелай праблемы. Але дзе ўзяць 15 мільярдаў рублёў, якія неабходны для завяршэння ўсіх работ — вось пытанне?

Напярэдадні дзесяцігоддзя з дня чарнобыльскай трагедыі, як і належыць у такія даты, пасёлак перасяленцаў наведалі В. Ганчарык і І. Кенік, падарылі Запольскай школе дарагі японскі тэлевізар. Падарунак, безумоўна, прыемны. Але для вучняў і настаўнікаў больш важны дзень заўтрашні, тым больш, што наступны юбілей адбудзецца няхутка, а значыць і ўвагі да сваіх праблем дабіцца будзе вельмі складана.

Сельсавет, на тэрыторыі якога знаходзіцца вёска, дапамагае школе, чым можа. У мінулым сезоне ён выдзеліў сродкі на яе ацяпленне. Але яго магчымасці, на жаль, небязмежныя. Зрэшты, як і калгаса «Беларусь», дзякуючы якому дзеці на працягу ўсяго навучальнага года харчаваліся бясплатна. Ды і праблему з клубам рана ці позна гаспадарцы ўсё-такі давядзецца вырашаць. Сёння моладзь на танцы бегае ў суседнія Смілавічы. Але нельга закрываць вочы на тое, што літаральна кожны метр шашы да Смілавіч, якую ім прыходзіцца пераадольваць, паліты крывёю: не праходзіць і месяца, каб чарговая ахвяра не аказалася пад коламі аўтамашыны. Нават самы перакананы атэіст у гэтай сітуацыі прыслухаецца да старых, якія тлумачаць гэту трагічную заканамернасць тым, што шаша пралягла якраз праз старыя могілкі. Іншыя прыгадваюць, што ў аснову дарогі леглі камяні, прывезеныя з разбуранай бальшавікамі царквы.

Сапраўды, чартаўшчыны ў нашым жыцці хапае. А вось цуды адбываюцца вельмі рэдка. Інакш як цудам, хуткае адкрыццё новай школы ў Заполлі не назавеш. Пакуль жа недабудаваны будынак, які зарос вакол бур'яном, здалёку прыцягвае позірк пустымі вачніцамі (аконныя рамы былі прадбачліва схаваны кіраўніцтвам калгаса ад сваіх «гаспадарлівых» вяскоўцаў), і вецер дарывае апошнія кавалкі цэлафану. А педагогі збіраюцца пасылаць «хадакоў» у сталіцу, каб там знайсці тую апошнюю інстанцыю, у якой, нарэшце, пачуюць іх крык аб дапамозе.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

Мінск—в.Заполле—Мінск.

# РЫНАК АБО КРАМА: ШТО БОЛЬШ ВАБІЦЬ ПАКУПНІКА

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 2.07.96 г.**

**Мяса (кг):**
свініна 30—60
ялавічына 20—50
бараніна 30—65
цяляціна 28—55
куры 29—33
сала свежае 24—30
сала салёнае 25—45

**Малочныя прадукты:**
малако (л) 4—6
тварог (кг) 18—30
смятана (кг) 18—26
масла 40—45

**Яйкі:**
птушкафабрыкі (1 дзес.) 8—11
хатнія 16—18

**Алей** 13—16

**Мёд** 60—70

**Цукар** 7—8

**Агародніна (кг):**
капуста свежая 9—20
морква — 8—15
агуркі свежыя 9—15
таматы 26—30
перац салодкі 40—60
цыбуля зялёная 8—12
салата 10—15
пятрушка 12—14

**Садавіна (кг):**
яблыкі 10—35
грушы 20—35
чарніцы:
1 кг — 15—20
1 шклянка — 3
суніцы:
1 кг 50—65
1 шклянка — 9
клубніцы 14—25
чарэшня 18—25
абрыкосы 25—50
персікі 100
ківі (1 шт.) 4,5—6
вінаград 65—75
кавуны 45—50
ананасы 40—55
апельсіны 14—18
лімоны 30—35
бананы 19—21

**Кветкі (шт.):**
гваздзікі 1,5—6
ружы 3—35
гербера 15
рамонак 15

За мінулы тыдзень змяненні цэнаў на харчовую прадукцыю на сталічным рынку закранулі, пераважна, як гэта і адбываецца летам, садова-агароднінную прадукцыю. На 3—5 тыс. руб. патаннелі свежыя агуркі і салодкі перац, затое зяленіва (зялёная цыбуля і пятрушка) на некалькі тысяч рублёў падаражэла. Куды больш даступнымі сталі і лясныя дары: цэны на чарніцы ўпалі на 5 тыс. руб., а на суніцы ўвогуле на 15—20 тыс. руб. за кілаграм. Затое паўднёвыя фрукты не толькі не страчваюць сваіх пазіцый, але і маюць устойлівую тэндэнцыю да падаражання: цэны на лімоны падняліся на 10 тыс. руб., ананасы — на 15 тыс. руб., кавуны — на 10 тыс. руб., персікі — на 20 тыс. руб. На фоне даволі дарагой і не кожнаму даступнай вітаміннай прадукцыі радуе той факт, што малочныя прадукты трошкі таннеюць: малако — на 1-2 тыс. руб., тварог, смятана — на 2—4 тыс. рублёў. Карацей, каму што па кішэні...





**Пачаўся вясенне-летні прызыў ва Узброеныя Сілы Беларусі. Хоць камплектаванне часцей будзе праходзіць па тэрытарыяльнаму прынцыпу і прызыўнікі будуць служыць недалёка ад дома, бацькі і каханыя праводзілі іх са слязамі на вачах. Першыя каманды прызыўнікоў будуць праходзіць службу ў элітарных войсках — паветрана-дэсантных сілах, славутай 120-й мотастралковай дывізіі, спецназе.**

**Мікалай АНІСІМАЎ.**

## РАГВАЛОД-ВАСІЛЬ БАРЫСАВІЧ (?—?) ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ПОЛАЦКІ



Не быў князь Рагвалод-Васіль улюблёнцам лёсу. Яму выпала доля няўдачніка, нявольніка, ізгоя. Яшчэ ў мададосці яго разам з іншымі полацкімі князямі вялікі князь кіеўскі выслаў ў 1129 годзе ў Візантыю. І толькі дзесці ў пачатку 40-х гадоў Рагвалод-Васіль вярнуўся на радзіму. Увесь гэты час Рагвалод і іншыя полацкія князі служылі ў візантыйскім войску і змагаліся супраць арабаў.

У 1143 годзе палачане абралі Рагвалоды-Васіля сваім князем. Восем гадоў княжыў ён у Полацку. Ніякіх звестак пра яго гаспадаранне невядома. Толькі ў «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай» туманна паведамляецца: «Той Василий псковян долгою войною прымусил до голоду и поступленя некоторых волостей, которые были от князства Полоцкого оторвали а, гды в покою потым пановал много лет».

Але ў 1151 годзе палачане пазбаўляюць Рагвалода-Васіля полацкага пасада і замест яго выбіраюць менскага князя Расціслава Глебавіча. Гісторыкі бачаць у гэтай замене палітычную камбінацыю з мэтай аб'яднаць пад уладай Расціслава Глебавіча Менскае і Полацкае княствы. А Рагвалод-Васіль стаў ахвярай палітыкі, яго паланілі і трымалі «в велице нужи». Восем гадоў правёў Рагвалод-Васіль у няволі ў Менскім замку. Адно заступніцтва магутнага ўладзімірскага князя Юрыя Далгарукага прымусіла Расціслава Глебавіча выпусціць Рагвалода-Васіля з-за кратаў. Адразу ж пасля вызвалення ён адпраўляецца да чарнігаўскага князя Святаслава Ольгавіча ў якога і ўзяў «полк».

У 1159 годзе Рагвалод-Васіль прыбыў у Слуцк, адкуль і ўсталяваў сувязі са сваімі прыхільнікамі ў Полацку і Друцку. Дручане запрасілі Рагвалода-Васіля да сябе і паўсталі супраць Расціслава, сына Глеба, які ўладарыў у Друцку. Рагвалода-Васіля сустрэлі з «честью великою». З'яўленне Рагвалода-Васіля ў Друцку падштурхнула да дзеянняў і палачан. Яго прыхільнікі ў Полацку выступілі супраць Расціслава. Толькі багатымі дарамі і ўдалося яму суняць нездаволеных ім людзей і прывесці іх да прысягі. Аднак праз нейкі час у Полацку ўспыхнуў мяцеж. Мяцежнікі патрабавалі вяртання на полацкі пасад Рагвалода-Васіля і на гэты раз Расціслаў дарамі супакоіў палачан. На Друцк рушыла войска. Рагвалод-Васіль замкнуўся ў горадзе і вытрымаў працяглую аблогу. Расціслаў вымушаны быў заключыць з ім мір і прызнаць яго друцкім князем.

Няўдача Расціслава падштурхнула ягоных праціўнікаў да рашучых дзеянняў. Яны паслалі да Рагвалода-Васіля запрашэнне сесці на полацкі пасад. На вечы была вырашана выгнаць Расціслава з Полацка, і ён, даведаўшыся аб гэтым, уцёк з горада. Рагвалод-Васіль прыйшоў у Полацк і сеў «на столе деда своего и отца своего с честью великою». Але з выгнаннем Расціслава парушалася адзінства Полацкай зямлі. Рагвалоду неабходна было аб'яднаць Полацкае і Менскае княствы. Тройчы Рагвалод-Васіль вадзіў полацкую дружыну на Менск і не здолеў узяць яго. У 1162 годзе Рагвалод-Васіль быў разбіты новым менскім князем Валадаром. Рагвалод уцёк у Слуцк, адкуль і паслаў у Полацк вестку, што ён адракаецца ад полацкага пасада.

Так бясслаўна скончылася княжанне Рагвалода ў Полацку. Яму бракавала рашучасці, цвёрдасці, вайсковага ўмельства, палітычнай мудрасці.

Далейшы лёс Рагвалода-Васіля невядомы. Мабыць, дажываў ён свой век у Друцку і не праяўляў былой актыўнасці ў палітыцы, а таму яго імя знікла з летапісаў. Аднак 7 мая 1171 года ў ягоным жыцці павінна была адбыцца нейкая важная падзея, бо ён выбіў на камені, што ляжаў паміж Друцкам і Воршай, зварот да Бога з просьбай аб дапамозе.

Свой след Рагвалод-Васіль пакінуў не толькі дзеяннямі, але і слаўнымі нашчадкамі. Ад Рагвалода-Васіля летапісцы выводзілі такія княжацкія роды, як Друцкія, Астрожскія, Пуцяты, Сакалінскія. І вялікія князі літоўскія, паводле некаторых летапісаў, паходзілі ад Рагвалодава сына Расціслава. А можа, так яно і ёсць, Рагвалод-Васіль палажыў пачатак дынастыі вялікіх князёў літоўскіх? І сапраўдную славу і памяць пра Рагвалода-Васіля прынеслі яму ягоныя нашчадкі.

Працяг. Пачатак у № 145-146

## ВЯЧКА (?—1224) КУКЕЙНОСКІ КНЯЗЬ



Больш за два стагоддзі нашы продкі змагаліся з нямецкімі крыжакамі. Разам з беларусамі ў гэтай барацьбе ўдзельнічалі летувісы, рускія, палякі, украінцы, латышы, эстонцы. Гэта было процістаянне Захаду і Усходу. За крыжацкімі ордэнамі мечаносцаў і тэўтонаў стаялі сілы ўсёй Заходняй Еўропы. Сярод першых, хто біўся з крыжакамі, быў і князь вольнага Полацку Кукейноскага княства, якое знаходзілася ў сярэднім Падзвінні.

Напрыканцы XII стогоддзі немцы пачалі заваёўваць усходнюю Прыбалтыку і храсціць скароныя народы ў каталіцкую веру. А дзеля таго, каб мець пастаянную вайсковую сілу, каталіцкая царква заснавала ў Лівоніі вайскова-манаскі ордэн мечаносцаў, або, як яго называлі, Лівонскі ордэн.

У 1208 годзе крыжакі напалі на Кукейнос і захапілі яго. Аднак, баючыся вайны з полацкім князем, ордэн вяртае Кукейнос Вячку з умовай знаходжання там крыжацкага гарнізона. Ганарлівы Вячка паўстае супраць ордэна, распраўляецца з крыжацкім гарнізонам, спальвае замак і ідзе у Ноўгарад.

Да 1224 года пра Вячку няма ніякіх звестак у летапісах. Не будзе перабольшаннем сказаць, што ён працягваў змагацца з крыжакамі. Як вопытнага і смелага ваяводу наўгародцы пасылаюць Вячку ў Юр'еў (сучасны Тарту) — фарпост Ноўгарада ў эстонскай зямлі. З'яўленне ў Юр'еве Вячкі выклікала пад'ём вызваленчай барацьбы эстаў супраць крыжакоў. «Галавой і мозгам іхнім быў усё той жа кароль Вячка, бо і сам ён даўно стаў коранем усялякага зла ў Лівоніі», — пісаў ордэнскі храніст. Супраць Вячкі было сабрана вялікае войска. Крыжакі прапанавалі Вячку «вольны шлях» з горада. Але Вячка адмовіўся. Многа дзён доўжылася аблога. Раззлаваныя крыжакі вырашылі забіць усіх абаронцаў Юр'ева. Падчас штурму Вячка са сваёй дружынай абараняўся да апошняга і загінуў разам са сваімі воінамі.

## УСЕВАЛАД (?—?) КНЯЗЬ ГЕРЦЫКСКІ

Усевалад быў князем удзельнага Герцыкскага княства, што знаходзілася ў Сярэднім Падзвінні і было ў васальнай залежнасці ад Полацка. Разам з полацкім князем Валадаром і Вячкам Усевалад актыўна ўдзельнічаў у барацьбе з крыжакамі. Рыжскі біскуп Альберт, які ўзначальваў крыжакоў, быў вымушаны прызнаць: «Герцыкскі кароль заўжды быў ворагам рыжан, змагаючыся з імі і не жадаючы заключыць мір». Восенню 1209 года Альберт сабраў раду і нагадаў на ёй «усё зло, прычыненае каралём Герцыке разам з летонамі гораду Рызе». Было вырашана захапіць Герцыке. Біскуп сабраў войска з усёй Лівоніі. Процістаяць гэтаму полчышчу Усевалад не меў сілы. Крыжакі разбілі ягоную дружыну і уварваліся ў Герцыке. Каб вызваліць свой горад і сям'ю, Усевалад прыехаў у Рыгу да біскупа. Альберт паабяцаў вярнуць Герцыке пры ўмове перадачы «каралеўства» у вечны дар Рыжскаму біскупству. Усевалад згаджаецца, абяцае быць верным біскупу. Але ён так і не змірыўся з уладай крыжакоў. Як адзначыў ордэнскі храніст, Усевалад часта ўзначальваў войскі летонаў. Усяляк дапамагаў ім, забяспечваў прадуктамі. Першым з полацкіх князёў ён разумее, што змагацца з крыжакамі паасобку нельга: толькі сумеснымі сіламі можна было разбіць ордэн. Усеваладаў цесць летонскі князь Даўгерут ездзіў у Ноўгарад і заключыў там саюз супраць крыжакоў. Устрывожаны ордэн зноў пайшоў у наступ на Герцыке, рыцары абвінавацілі Усевалада ў тым, што ён словам і справай дапамагае летонам у вайне з ордэнам. У 1214 годзе крыжакі зноў напалі на Герцыке і спалілі яе. Усевалад у гэты час адсутнічаў, вярнуўся ён ужо на папялішча роднага дома. Толькі не аднаўляць горад давялося яму, а зноў абараняцца ад ворага. Ордэн паўтарыў паход на Герцыке. Ёсць звесткі, што ў баі з крыжакамі Усевалад загінуў. Хоць ордэнскі Генрых Латвійскі і згадвае пра яго ў 1225 годзе, але, верагодна, гэта ўсяго толькі фальсіфікацыя, каб утаіць факт здрадніцкага забойства ордэнскага падданага. Нешта не верыцца, каб Усевалад, пра якога ордэнскі храніст пісаў, што ён заўсёды быў ворагам крыжакоў, змірыўся з імі і купіў сабе жыццё цаной здрады свайму народу.

## ВАЛАДАР (? — 1216) ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ПОЛАЦКІ

«Вялікі кароль Вальдэмар», — гэтак назваў полацкага князя ордэнскі храніст Генрых Латвійскі. Толькі з ягонай «Хронікі Лівоніі» мы можам даведацца пра Валадара. Згодна з паведамленнем хронікі, Валадар ужо ў 1186 годзе быў полацкім князем і правіў аж да 1216 года. Такім чынам, Валадар пракняжыў у Полацку трыццаць гадоў, што пасля славутага Усяслава Чарадзея не ўдавалася ніводнаму князю. Ён дамогся аб'яднання ўсіх полацкіх удзельных князёў і не дапусціў міжусобнай вайны. Моц полацкага княства выявілася ў 1195 годзе, калі палачане вызвалілі Віцебск ад улады Смаленскага княства, якое на той час лічылася самым моцным на Русі. А ў 1201 годзе, калі літоўскія князі выправіліся ў рабаўніцкі паход на падуладных Полацку земігалаў, Валадар увёў свае войскі ў Літву, і прымусіў літвінаў адмовіцца ад паходу. Відаць, не выпадкова Валадар названы вялікім каралём, нават крыжакі прызнавалі ягоную моц. Так яно і было. З'явіўшыся ў Лівоніі, крыжакі прасілі ў Валадара дазволу хрысціць падуладных яму ліваў. Полацк валодаў землямі да берагоў Балтыйскага мора, а плямёны, што жылі на іх — лівы, селы, лэты, латгалы — плацілі даніну полацкаму князю. Каб заваяваць Лівонію, нямецкім феадалам трэба было перш за ўсё ваяваць з Полацкам. Таму крыжакі згадзіліся плаціць Полацку даніну за падуладныя яму плямёны. Уладзімір не разгадаў гэтага палітычнага манеўру і згадзіўся з крыжацкай прапановай. Крыжакі выйгралі час і пачалі будаваць замкі, умацоўвацца, стварылі свой ордэн. А як неслі яны слова Божае — піша хроніка: «І залілі крывёю паганцаў усе дарогі і месцы»; «Спусташылі і аддалі агню ўсе весі, а мужчын, якіх захапілі, усіх спалілі жывымі». Занадта позна зразумеў сваю памылку Валадар. Ордэн паспеў трывала ўсталявацца ў Лівоніі. У вусці Дзвіны была пабудавана Рыга, якая закрыла выхад полацкім купцам у Балтыйскае мора. У 1203 годзе Валадар здзейсніў паход у Лівонію. Але крыжакі, схаваўшыся за муравanымі сценамі замкаў, адбіліся. Рыжскі біскуп Альберт прызнае Валадара ўладаром Лівоніі і працягвае плаціць яму даніну, адначасова ён агнём і мячом «хрысціць» ліваў. Так доўга не магло працягвацца. Да Валадара ў 1206 годзе прыйшло ліўскае пасольства і папрасіла яго заступніцца. Аднак і гэты паход не прынёс палачанам перамогі. Крыжакі зноў абараніліся ў сваіх замках. Адчуўшы сваю сілу, Ордэн ад тактыкі ўступак Полацку пераходзіць у наступ. Крыжакі захапілі Кукейнос і Герцыке. Альберт адмовіўся плаціць даніну. Угневаны Валадар пагражаў спаліць усе замкі Лівоніі і прагнаць крыжакоў, але перавага ўжо была на іх баку.

Аднак па-ранейшаму народы, што змагаліся супраць крыжакаў, бачылі ў Полацку свайго саюзніка. У 1216 годзе эсты звярнуліся да Валадара з просьбай, каб ён з войскам прыйшоў ваяваць Рыгу. Эсты абяцалі падняць на вайну з Ордэнам паняволеныя народы. Гэта быў той час, якога цярпліва чакаў Валадар. Ён пачаў збіраць войска з Полацкай зямлі і суседняй Літвы. Калі ўсё было гатова да паходу, Уладзімір, які ўзначаліў войска, узышоў на карабель і раптам паваліўся і памёр. А без правадыра паход не адбыўся. Такая заўчасная смерць Валадара наводзіць на думку, што яго атруцілі ордэнскія шпіёны.

Полацкія князі Вячка, Усевалад, Валадар першымі сустрэлі ворагаў славянства са зброяй у руках і загінулі ў баі, але яны паклалі пачатак вялікай перамогі над Ордэнам.

## СВЯТАЯ ЕФРАСІННЯ ВЯЛІКАЯ (? — 1167?)



«Якою мовай, братове, належыць уславіць светлую памяць найшчаслівейшай нявесты Хрыстовай Ефрасінні! Была яна дапамогай пакрыўджаным, суцяшэннем смуткуючым, распранутым — адзеннем, хворым — наведаннем ці, проста кажучы, — для ўсіх была ўсім. Ефрасіння сэрца сваё паіла Божаю мудрасцю. Ефрасіння — нязведальны квет расійскага саду. Ефрасіння — арол, што, лунаючы ў небе, праляцеў ад захаду і да ўсходу, як прамень сонечны, прасвятліў зямлю Полацкую. Вось, братове, Селунь хваліцца святым Дзмітрыем, Вышгарад — пакутнікамі Барысам і Глебам; я ж хвалюся: шчаснае ты, месца Полацкае, што ўзрасціла такі парастак — найпадобнейшую Ефрасінню!» Нават калі б пра жыццё Ефрасінні Полацкай не захавалася б ніякіх звестак, дык усё роўна гэты ўзнёслы гімн невядомага аўтара яе жыццяпісу праславіў бы яе на стагоддзі. І сапраўды, шчасная тая зямля, якая ўзрасціла гэтую вялікую жанчыну, прасветленую Божай любоўю да людзей. Яна стала для беларусаў нябеснай апякункай.

Ефрасіння была дачкой малодшага сына Усяслава Брачыславіча Святаслава-Георгія і да пастрыгу насіла імя Прадслава. Здавалася, яе чакае звычайны жаночы лёс — шлюб, сям'я, дзеці, унукі. Славілася яна сваёй прыгажосцю, і многія князі слалі да яе бацькі сватоў. І калі споўнілася Прадславе дванаццаць гадоў, бацька задумаў выдаць яе замуж. Але іншы шлях выбрала сабе Прадслава. Палюбіла яна кніжную навуку, а яе светлая душа райскай кветкай цягнулася да Божага святла. «Што ж учынілі нашыя роды, якія былі да нас? Жаніліся і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі, жыццё іх праплыло, і загінула іхняя слава, быццам прах, горай за павуцінне. Затое жанчыны, што жылі раней і, узяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім жаніхом, і целы свае аддалі на пакуты, і паклалі галовы пад меч, а іншыя хоць і не схілілі шыі свае пад жалеза, але мячом духоўным адсеклі плоцкія асалоды, аддаўшы целы посту, чуйнаванню і малітоўнаму кленчанню, і зямельнаму лятанню — тых памятаюць на зямлі, іх імёны напісаны на нябёсах, дзе яны з анёламі Бога ўхваляюць. А слава гэтая — пыл і попел, быццам дым разыходзіцца і нібы пара водная гіне». Сваім сэрцам зразумела юная князёўна ўсю марнасць людской мітусні, гэтую пагоню за багаццем і сытасцю, гэтую прагу людской славы — пыл і попел. У памяці людзей застаюцца добрыя справы, а праз дабро людзям, праз любоў да іх можна выратаваць Божы дар — душу. І душой спасцігла яна тую мудрасць, што, бывае, і самым мудрым не спасцігнуць — мудрасць Божага запавета. І стала яна паклікана служыць Богу. Прадслава прыняла анёльскі чын і пры пастрыгу атрымала такое дарагое для нас імя Ефрасіння. Як у роспачы рваў валасы яе бацька, як плакаў, як смуткаваў. Лічыў, што гора — дачка пайшла ў манастыр. Толькі не ён суцяшаў яе, а яна яго. Ці зразумеў князь душэўны парыў дачкі? Не згубіў ён дачкі, а прыдбаў заступніцу перад Богам і за сваю сям'ю, і за свой родны Полацк, і за ўсіх людзей.

Шчырыя малітвы ўзносіла да нябеснага Айца верніца. І шчырасць яе душы асвятляла цемру таго жорсткага часу. Кветка райскага саду была падаравана Богам Беларусі — імя яе Ефрасіння. І каб толькі малітвы... Да яе ішлі па суцяшэнне, па дабрату, па міласціну. Яна лячыла цялесныя і духоўныя язвы і раны. І каб толькі гэта хрысціянская цнота — яе праяўлялі таксама іншыя. Ефрасіння жадае будаваць храм. Хай гэты храм і не будзе мець сцен і бажніц, абразоў, купалоў, але ён будзе мець слова, тое слова, якое ёсць у Бога. І слова пабудуе храм у сэрцах і душах людзей. Ефрасіння пераходзіць у сабор святой Сафіі і там перапісвае кнігі. З дня ў дзень руплівая праца. Кожнае напісанае ёю слова — як зерне, кінутае аратаем ва ўраджайную глебу. Кожнае слова несла людзям асвету, кожнае слова расплюшчвала ім вочы. Кніжніца! Асветніца! А прыбытак, які атрымлівала Ефрасіння ад продажу кніг, раздавала яна тым, хто папросіць. Вось кошт працы для людзей, вось яна, вышыня духоўнага жыцця!

І храм свой — бялюткі, нібы свечка, з яркімі фрэскамі святых, белакаменны — пабудавала Ефрасіння. Па яе просьбе дойлід Іван узвёў царкву, якой яшчэ не было ні ў Полацкай зямлі, ні ва ўсёй Русі. І радаваліся палачане, радавалася да слёз Ефрасіння і ў першай малітве ў сваім храме прасіла Бога, каб збярог ён людзей... «Будзь ім, Госпадзе, зброяй і забралам, каб не сышло на іх зло, каб раны не закранулі цел нашых; не загубі нас з нашымі беззаконнямі, бо на цябе мы ўсхваляем да апошняга нашага ўздыху! Давеку — амін!»

Яшчэ адзін храм пабудавала Ефрасіння і заснавала два жаночыя манастыры. Прыходзілі да яе святыя, каго паклікаў да сябе Бог. І навучала іх Ефрасіння. Вось, сабрала вас, нібы птушанятаў, пад крылы свае і на пашы, нібы авечак, каб вы пасвіліся ў Божых наказах. А я з лёгкім сэрцам стараюся вучыць вас, бачачы плён вашай працы, і такі дождж вучэння на вас праліваю! Але ж вашыя нівы стаяць, не ўзыходзячы і не ўзрастаючы ўгору, а год ужо завяршаецца, і лапата ляжыць на гумне. І баюся, што будзеце вы пустазеллем, і аддадуць вас агню непагаснаму. Пастарайцеся ж, дзеці мае, пазбегнуць яго, і ўчыніце сябе вы пшаніцаю чыстай, і змяліцеся ў жорнах умірнасцю, малітвамі, постам, каб чыстым хлебам прынесціся на трапезу Хрыстову!»

Святасць несла Ефрасіння роднай зямлі, аздабляла яе святынямі. Па яе просьбе візантыйскі імператар Мануіл і патрыярх Лука прыслалі ў Полацк абраз Эфескай Божай Маці, пісаны, паводле падання, евангелістам Лукой. Яна ж заказала майстру Лазару Богшу зрабіць крыж, у якім знаходзіліся хрысціянскія рэлёквіі: кроплі крыві Ісуса Хрыста, кавалачак крыжа Господняга, каменьчык ад дамавіны Багародзіцы, часткі мошчаў святых Стэфана і Панцеляймона, а таксама кроплі крыві св. Дзмітрыя,

**Вітаўт ЧАРОПКА.**

*(Працяг будзе.)*

# Імем Рэспублікі Беларусь

# Заключэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь

## АБ АДПАВЕДНАСЦІ КАНСТЫТУЦЫІ І ЗАКОНАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УКАЗА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 20 ЛІСТАПАДА 1995 ГОДА № 476 «АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ ПАЛАЖЭННЯ АБ СТАРШЫНІ АБЛАСНОГА, МІНСКАГА ГАРАДСКОГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., суддзяў Васілевіча Г. А., Вашкевіча А. Е., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Філіпчык Р. І., Чудакова М. Ф.

з удзелам прадстаўнікоў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які ўнёс прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўнага акта:

Лазовіка Н. І. — старшыні падкамісіі па мясцоваму самакіраванню Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню;

Юркевіч Г. І. — загадчыцы аддзела экспертна-прававога ўпраўлення Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

разгледзеў у адкрытым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 лістапада 1995 года № 476 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел:

Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь;

Бачкова Г. В. — намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Разгляд па справе ўзбуджаны Канстытуцыйным судом па прапанове Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання Грыба М. І. на падставе часткі першай артыкула 127 Канстытуцыі, артыкулаў 5 і 6 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Праверцы падлягаў Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 лістапада 1995 года № 476 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 33, арт. 804).

Пунктам 1 названага Указа зацверджана Палажэнне, якім прадугледжаны парадак назначэння на пасаду старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта і вызваленне ад гэтай пасады, патрабаванні, якія прад'яўляюцца да кандыдата на гэтую пасаду.

Палажэннем вызначана кампетэнцыя старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, яго падкантрольнасць і падсправаздачнасць, адказнасць, гарантыі прававой і сацыяльнай абароны.

Пунктам 2 Указа Кабінету Міністраў дадзена даручэнне прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў у адпаведнасць з Указам, а таксама ўнесці неабходныя змяненні і дапаўненні ў акты ўрада.

У прапанове ў Канстытуцыйны суд Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання ўказаў, што шэраг нормаў Палажэння аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта супярэчаць дзеючаму заканадаўству. На яго думку, Прэзідэнт, зацвердзіўшы гэтае Палажэнне, умяшаўся ў сферу паўнамоцтваў органа заканадаўчай улады, паколькі парадак назначэння, статус і кампетэнцыя старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта павінны вызначацца законам. Гэтыя пытанні вырашаны ў Законе «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» і не патрабуюць дадатковага рэгулявання ўказам Прэзідэнта.

У прапанове ўказана таксама, што абвяшчэнне старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта вышэйшай службовай асобай на тэрыторыі адпаведна вобласці ці горада Мінска супярэчыць артыкулу 6 Канстытуцыі, таму што замацоўвае прыярытэт органаў выканаўчай улады над іншымі дзяржаўнымі органамі. На думку Старшыні Вярхоўнага Савета, прадастаўленне старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта больш шырокіх паўнамоцтваў супярэчыць Закону «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» у сувязі з тым, што частка гэтых паўнамоцтваў належыць мясцоваму выканаўчаму камітэту як калегіяльнаму органу, а не асабіста яго старшыні. Акрамя таго, надзяленне старшыні выканаўчага камітэта пэўнымі паўнамоцтвамі ў адносінах да камунальнай уласнасці і падведамных прадпрыемстваў супярэчыць артыкулу 46 Закона «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь», артыкулу 44 Закона «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», артыкулам 8 і 28 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь».

У прапанове ўказваецца таксама на неканстытуцыйнасць пункта 2 Указа, паколькі падзаконныя нарматыўныя акты павінны прыводзіцца ў адпаведнасць з законам, а не заканадаўчыя акты — у адпаведнасць з указам.

Выслухаўшы прадстаўнікоў боку, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйны суд прыйшоў да наступных высноў.

Згодна з артыкулам 6 Канстытуцыі дзяржава грунтуецца на прынцыпе падзелу ўладаў: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго.

Артыкулам 124 Канстытуцыі прадугледжана, што кампетэнцыя, парадак стварэння і дзейнасці органаў мясцовага кіравання і самакіравання вызначаюцца законам.

У адпаведнасці з артыкулам 146 Канстытуцыі законы і іншыя акты дзяржаўных органаў выдаюцца на аснове і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. У выпадку разыходжання закона з Канстытуцыяй дзейнічае Канстытуцыя, а ў выпадку разыходжання іншага нарматыўнага акта з законам дзейнічае закон.

Артыкулам 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» прадугледжана, што Прэзідэнт выдае ў межах сваіх паўнамоцтваў на аснове і ў мэтах выканання Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь і пастаноў Вярхоўнага Савета ўказы і распараджэнні, кантралюе іх выкананне. Указы і распараджэнні Прэзідэнта не павінны супярэчыць Канстытуцыі, законам і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, пастановам Вярхоўнага Савета, не могуць іх дапаўняць ці змяняць. У выпадку адсутнасці нормы закона, неабходнай для ажыццяўлення выканаўчай улады ў якой-небудзь сферы адносінаў, Прэзідэнт выкарыстоўвае права заканадаўчай ініцыятывы.

Прааналізаваўшы Палажэнне аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, зацверджанае Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 476 ад 20 лістапада 1995 г. Канстытуцыйны суд лічыць, што асобныя нормы гэтага Палажэння супярэчаць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

Так, пунктам 2 Палажэння ўстаноўлена, што старшыня выканаўчага камітэта назначаецца на пасаду Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і зацвярджаецца, адпаведна, сесіяй абласнога, Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў шляхам адкрытага галасавання. Разам з тым, згодна з падпунктам 13 пункта 2 артыкула 8 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», зацвярджэнне рэгламенту Савета, у якім вырашаюцца адпаведныя працэдурныя пытанні, адносіцца да выключнай кампетэнцыі гэтага Савета. Толькі Савет мае права вырашаць, якім чынам (тайна ці адкрыта) будзе праводзіцца галасаванне па тым ці іншым пытанні. Таму ўказанне ў Палажэнні аб адкрытым галасаванні пры зацвярджэнні старшыні выканаўчага камітэта супярэчыць Закону «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь».

Пунктам 5 Палажэння ўстаноўлена, што ў выпадку, калі пасада старшыні выканаўчага камітэта з'яўляецца вакантнай, яго абавязкі выконвае першы намеснік ці, па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іншая асоба да назначэння ва ўстаноўленым парадку новага старшыні выканаўчага камітэта. Гэта норма супярэчыць частцы шостай пункта першага артыкула 14 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», згодна з якой у выпадку адсутнасці старшыні ці немагчымасці выканання ім сваіх абавязкаў яго замяшчае першы намеснік.

У пункце 10 Палажэння кампетэнцыя старшыні выканаўчага камітэта вызначана больш шырока, чым гэта прадугледжана Законам «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» і іншымі законамі. У прыватнасці, гэтым пунктам Палажэння прадугледжана, што Старшыня выканаўчага камітэта:

вызначае структуру і штаты выканаўчага камітэта, яго ўпраўленняў, аддзелаў і іншых падраздзяленняў (абзац пяты);

назначае на пасады і вызваляе ад пасад кіраўнікоў падведамных выканаўчаму камітэту прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў (абзац шосты);

назначае на пасады і вызваляе ад пасад кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, аб'яднанняў, заснаваных на камунальнай уласнасці (абзац сёмы);

назначае прадстаўнікоў дзяржавы ў органах кіравання акцыянерных таварыстваў і іншых суб'ектаў гаспадарання, акцыі якіх (долі ў якіх) знаходзяцца ў камунальнай уласнасці (абзац дзевяты);

адмяняе загады кіраўнікоў структурных падраздзяленняў выканаўчага камітэта, падведамных выканаўчаму камітэту прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў (абзац адзінаццаты);

кіруе грамадзянскай абаронай, адпаведна, на тэрыторыі вобласці, горада Мінска, у выпадках стыхійных бедстваў, аварый, катастроф прымае меры па выратаванню людзей і захаванню матэрыяльных каштоўнасцей, мае права для ліквідацыі такіх надзвычайных сітуацый прыцягваць насельніцтва да выканання неадкладных грамадска неабходных работ і выкарыстоўваць матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы прадпрыемстваў і арганізацый незалежна ад формаў уласнасці, якія размешчаны адпаведна на тэрыторыі вобласці, горада Мінска (абзац пятнаццаты);

прыпыняе дзейнасць прадпрыемстваў, будаўніцтва аб'ектаў, адпаведна, на тэрыторыі вобласці, горада Мінска пры парушэнні прыродаахоўнага і іншага заканадаўства (абзац дваццаць другі).

Пералічаныя вышэй паўнамоцтвы, згодна з артыкулам 14 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», належаць выканаўчаму камітэту як калегіяльнаму органу.

Надзяленне старшыні выканаўчага камітэта пералічанымі ў пункце 10 Палажэння правамі па кіраванню прадпрыемствамі камунальнай уласнасці і падведамнымі прадпрыемствамі і ўстановамі супярэчыць не толькі Закону «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», але і законам «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

Так, у адпаведнасці з падпунктам 3 пункта 2 артыкула 8 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» выключна на сесіях Савета разглядаюцца і вырашаюцца пытанні вызначэння ў межах, устаноўленых законам, парадку кіравання і распараджэння камунальнай уласнасцю.

Артыкул 28 гэтага закона прадугледжвае, што распараджэнне камунальнай уласнасцю ажыццяўляюць ад імя насельніцтва адміністрацыйна-тэрытальнага ўтварэння адпаведныя мясцовыя Саветы дэпутатаў, а таксама выканаўчыя камітэты і іх органы ў парадку і на ўмовах, вызначаных мясцовымі Саветамі.

Згодна з артыкулам 46 Закона «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь», распараджэнне і кіраванне дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці, ажыццяўляюць ад імя насельніцтва адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў адпаведныя мясцовыя Саветы дэпутатаў.

Артыкулам 44 Закона «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» наём (назначэнне, выбранне) кіраўніка прадпрыемства з'яўляецца правам уласніка маёмасці прадпрыемства і рэалізуецца ім непасрэдна, а таксама праз упаўнаважаныя ім органы або праз савет (праўленне) прадпрыемства ці іншыя органы, якім дэлегаваны правы па кіраванню прадпрыемствам.

Абзацам 24 пункта 10 Палажэння прадугледжана, што старшыня абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта накладае на кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый дзяржаўнай уласнасці дысцыплінарныя спагнанні, устаноўленыя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Гэтая норма супярэчыць арт. $136^1$ Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае, што дысцыплінарнае спагнанне прымяняецца органам (кіраўніком), якому прадастаўлена права прыёму (выбрання, зацвярджэння, назначэння на пасаду) і звальнення работнікаў, альбо па яго даручэнню іншым органам (кіраўнікам).

У адпаведнасці з абзацам чацвёртым пункта 10 Палажэння старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта назначае на пасады і вызваляе ад пасад кіраўнікоў адпаведных мясцовых адміністрацый. Заключэннем Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь ад 11 снежня 1995 г. «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19 верасня 1995 года № 383 «Аб правядзенні рэформы органаў мясцовага кіравання і самакіравання», ад 27 лістапада 1995 года № 481 «Аб зацвярджэнні прыкладнай структуры мясцовых адміністрацый у раёнах гарадоў» і ад 30 лістапада 1995 года № 485 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Часовае палажэнне аб мясцовай адміністрацыі» стварэнне на тэрыторыі раёнаў у гарадах мясцовых адміністрацый прызнана не адпаведным Канстытуцыі і законам.

Пунктам 9 правяраемага Палажэння прадугледжана, што старшыня выканаўчага камітэта з'яўляецца вышэйшай службовай асобай і кіраўніком выканаўчай улады, адпаведна, на тэрыторыі вобласці, г. Мінска. Прававы статус старшыні выканаўчага камітэта вызначаны Законам «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» (артыкул $14^1$), з якога не вынікае, што старшыня выканкома з'яўляецца вышэйшай службовай асобай на адпаведнай тэрыторыі.

Суд таксама звяртае ўвагу на некарэктнасць фармулёўкі пункта 2 Указа, якая змяшчае даручэнне Кабінету Міністраў падрыхтаваць прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з дадзеным Указам, паколькі, зыходзячы з іерархіі нарматыўных актаў, устаноўленых арт. 146 Канстытуцыі, падзаконныя нарматыўныя акты павінны прыводзіцца ў адпаведнасць з законам, а не заканадаўчыя акты — у адпаведнасць з Указам.

На падставе вышэйуказанага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

ВЫРАШЫЎ:

1. Прызнаць не адпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь наступныя нормы Палажэння аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 лістапада 1995 г. № 476:

пункт 2 у частцы ўказання на форму галасавання пры зацвярджэнні старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта на сесіі адпаведнага Савета;

пункт 5 у частцы ўказання аб выкананні абавязкаў старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта ў выпадку вакансіі іншай асобай па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

абзацы пункта 10:

абзац чацвёрты ў частцы назначэння на пасаду і вызвалення ад пасады старшынёй Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта кіраўнікоў адпаведных мясцовых адміністрацый;

абзац пяты ў частцы вызначэння структуры і штатаў выканаўчага камітэта, яго ўпраўленняў, аддзелаў і іншых падраздзяленняў;

абзац шосты ў частцы назначэння на пасады і вызвалення ад пасад кіраўнікоў падведамных выканаўчаму камітэту прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў;

абзацы сёмы, дзевяты, адзінаццаты, пятнаццаты, дваццаць другі;

абзац дваццаць чацвёрты ў частцы накладання на кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый дзяржаўнай уласнасці дысцыплінарных спагнанняў.

Прызнаць гэтыя нормы страціўшымі сілу з 1 ліпеня 1996 года.

2. Апублікаваць гэтае Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін у «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і тых выданнях, дзе быў апублікаваны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 лістапада 1995 года № 476 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта».

3. Гэтае Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы —**
**Старшыня Канстытуцыйнага суда**
**Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ**

18 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 3-37/96

### АСОБНАЕ МЕРКАВАННЕ

**суддзі Канстытуцыйнага суда М. І. Пастухова па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 лістапада 1995 г. № 476 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта»**

Лічу, што Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 лістапада 1995 г. № 476, якім зацверджана Палажэнне аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, не адпавядае Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь не толькі ў пэўнай частцы (як вырашыў суд), але і ў цэлым.

Згодна з артыкулам 124 Канстытуцыі кампетэнцыя, парадак стварэння і дзейнасці органаў мясцовага кіравання і самакіравання вызначаюцца законам.

Такім з'яўляецца Закон «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», прыняты Вярхоўным Саветам 20 лютага 1991 г. (з далейшымі змяненнямі і дапаўненнямі). Ён замацоўвае асновы прававога становішча мясцовых органаў кіравання і самакіравання, органаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, розных формаў непасрэднай дэмакратыі.

У гэтым законе ёсць спецыяльны артыкул $14^1$, які называецца «Старшыня выканаўчага камітэта». У ім прадугледжаны парадак назначэння на пасады старшынь абласнога, раённага, гарадскога (гарадоў абласнога падпарадкавання) выканаўчых камітэтаў, а таксама ўстаноўлена іх кампетэнцыя.

У разглядаемым Палажэнні вызначаюцца прававы статус старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, парадак назначэння на пасаду і вызваленне ад пасады, яго паўнамоцтвы і адказнасць.

Не выклікае сумненняў, што старшыні абласных, Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў як кіраўнікі ўваходзяць у сістэму органаў мясцовага кіравання і іх дзейнасць рэгулюецца Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь.

З улікам выкладзенага лічу, што ў Прэзідэнта не было законных падстаў для зацвярджэння сваім указам Палажэння аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта. Выдаўшы такі ўказ, Прэзідэнт змяніў і дапоўніў закон, чым перавысіў свае паўнамоцтвы.

Трэба адзначыць, што мясцовае кіраванне і самакіраванне з'яўляюцца адносна аўтаномнай сістэмай улады. Гэта знайшло замацаванне ў раздзеле V Канстытуцыі «Мясцовае кіраванне і самакіраванне» і ў поўнай меры адпавядае прынцыпам, выкладзеным у Еўрапейскай хартыі аб мясцовым самакіраванні 1985 года.

Згодна з артыкулам 117 Канстытуцыі, мясцовае кіраванне і самакіраванне «ажыццяўляецца грамадзянамі...» Гэта прадугледжвае, што цэнтральныя органы ўлады не маюць права ўмешвацца ў справы мясцовых уладаў, абмежаваўшы сваю ролю выданнем законаў і ажыццяўленнем кантролю за іх выкананнем.

Насуперак указаным прынцыпам арганізацыі мясцовага кіравання і самакіравання, Палажэнне аб старшыні абласнога, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта ўстанаўлівае жорсткую залежнасць кіраўнікоў мясцовых выканаўчых органаў ад кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады і фактычна пераводзіць рэгуляванне іх дзейнасці з узроўню закона на ўзровень падзаконнага акта.

Акрамя таго, гэта Палажэнне ўступае ў супярэчнасць з артыкуламі 3, 8, 9 і 14 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь».

**Суддзя Канстытуцыйнага**
**суда Рэспублікі**
**Беларусь М. І. ПАСТУХОЎ**

18 чэрвеня 1996 г.

36,6°

# А БАНАНЫ — ДЛЯ ДУШЫ...

**Дзейнасць мозга можна стымуляваць з дапамогай... ежы, прычым самай звычайнай. Галоўнае — ведаць, што есці і ў якім наборы**

**ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў МОЗГУ?**

Там няспынна працуюць звыш 100 мільярдаў нервовых клетак, прычым кожная звязана з яшчэ 10.000 іншых. І кожную секунду яны адначасова абменьваюцца інфармацыяй і падаюць мільёны сігналаў. Для таго, каб гэты складанейшы механізм функцыяніраваў без збояў, клеткам шэрага рэчыва мозга неабходна вялікая колькасць энергіі. Хоць маса чалавечага мозга складае ўсяго 2-3 працэнты ад масы цела, мозг штодзённа забірае 20 працэнтаў усёй энергіі, што атрымліваецца з ежы. Такім чынам, тое, што мы ядзім, рашаючым чынам адбіваецца на працаздольнасці нашага мозга. Прапануем наша меню з прадуктаў, якія дапамогуць вам палепшыць

**...ПАМЯЦЬ**

**Морква** асабліва аблягчае завучванне чаго-небудзь напамяць за кошт таго, што стымулюе абмен рэчываў у мозгу. Наша парада: перад вучобай з'есці талерку цёртай морквы з алеем.

**Ананас** — любімы фрукт тэатральных і музычных зорак. Той, каму неабходна ўтрымліваць у памяці вялікі аб'ём тэкста або нотных знакаў, патрабуе вялікай колькасці вітаміна С, які ў дастатковай колькасці ўтрымліваецца ў гэтым фрукце. Акрамя таго, у ананасах вельмі мала калорый (у 100 грамах усяго 56 калорый). Дастаткова выпіваць 1 шклянку ананасавага соку ў дзень.

**Авакада** — крыніца энергіі для кароткатэрміновай памяці (напрыклад, пры складанні планаў, раскладаў, спісаў пакупак і г. д.) за кошт высокага ўтрымання тлустых кіслот. Дастаткова палавіны плода.

**...КАНЦЭНТРАЦЫЯ ЎВАГІ**

**Крыветкі** — далікатэс для мозга: забяспечваюць арганізм важнейшымі тлустымі кіслотамі, якія не дадуць вашай увазе аслабець. Дастаткова 100 грамаў у дзень. Але! Звярніце ўвагу: саліць толькі пасля кулінарнай апрацоўкі (варкі або смажання).

**Цыбуля** рэпчатая дапамагае пры разумовымператамленні і псіхічнай стомленасці. Садзейнічае разрэджванню крыві, паляпшае забеспячэнне мозга кіслародам. Доза: мінімум палавіна цыбуліны штодзённа.

**Арэхі** асабліва добрыя, калі ў вас наперадзе разумовы «марафон» (даклады, канферэнцыі, канцэрты) або доўгая паездка за рулём. Умацоўваюць нервовую сістэму, стымулююць дзейнасць мозга.

**ДЛЯ ТВОРЧАГА АЗАРЭННЯ**

**Інжыр** вызваляе галаву для новых ідэй. Рэчыва, якое ўтрымліваецца ў ім і па свайму саставу хімічна блізкае да аспірыну, а таксама эфірнае масла разрэджваюць кроў, мозг лепш забяспечваецца кіслародам. Лепшы «корм» для журналістаў і людзей іншых творчых прафесій.

**Кмен** можа справакаваць нараджэнне геніяльных ідэй. Эфірнае масла, якое ўтрымліваецца ў ім, стымулюе ўсю нервовую сістэму. Той, хто мае патрэбу ў творчай актыўнасці мозга, павінен піць чай з кмену: 2 чайныя лыжкі здробненага семя на шклянку.

**...ГРАНІТ НАВУКІ І КАПУСТУ ТРЭБА ГРЫЗЦІ АДНАЧАСОВА**

**Капуста** здымае нервовасць, таму што зніжае актыўнасць шчытападобнай залозы. Каб прайшоў «мандраж», з'ешце салат з капусты перад экзаменамі, і вы спакойна да іх падрыхтуецеся.

**Лімон** асвяжае думкі і аблягчае ўспрыманне інфармацыі за кошт ударнай дозы вітаміна С. Перад заняткамі замежнай мовай нядрэнна «прыняць на грудзі» шкляначку лімоннага соку.

**Чарніцы** — ідэальны «прамежкавы корм» для студэнтаў. Садзейнічае кровазвароту мозга. Лепш за ўсё есці свежыя ягады, а не варэнне.

**ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў ДУШЫ?**

На станоўчыя і адмоўныя эмоцыі таксама можна паўплываць пры дапамозе ежы. Таму наступныя нашы парады для тых, хто хоча падтрымаць свой добры настрой.

**Папрыка** — чым вастрэй, тым лепш. Духмяныя рэчывы садзейнічаюць выдзяленню «гармонаў шчасця» — эндарфінаў.

**Клубніцы** — вельмі смачна, і да таго ж яны хутка нейтралізуюць адмоўныя эмоцыі. Доза: мінімум 150 г.

**Бананы** ўтрымліваюць серatанін — рэчыва, якое неабходна нашаму мозгу, каб той прасігналізаваў: «вы шчаслівыя».

**Вікторыя ШКАРОЎСКАЯ,**
**Таццяна ПАЛЯКОВА.**
*«АиФ».*

## ФІЛЬМАТЭКА

- «Кумпарсіта»
- «Крутая дзяўчынка»
- «Ястраб пустыні»
- «Смяротны снег»

Новую мастацкую кінастужку **«Кумпарсіта»**, створаную рэжысёрам Аляксандрам Палыннікавым па ўласнаму сцэнарыю, перадаюць на суд гледачоў расійскія кінематаграфісты.

Згодна з жанрам, гісторыя фільма пачынаецца з таго, што галоўная гераіня (зусім яшчэ дзяўчынка семнаццаці-васемнаццаці гадоў) нараджае незаконнае дзіця і збягае з раддома, пакінуўшы там немаўля. З яе ўспамінаў глядач даведаецца, што яна — сірата, выхаванка інтэрната. Сімпатычная, стройная, з вялікімі вачыма, Анюта самазабыўна займаецца бальнымі танцамі, выступае на розных раённых і гарадскіх конкурсах, з запалам выконваючы са сваім напарнікам і равеснікам Сашам танга «Кумпарсіта». У інтэрнаце іх называюць жаніхом і нявестай. Але вось з'яўляецца новы выкладчык танцаў Андрэй Пятровіч. Анюта закахалася ў яго з першага погляду і аддалася пры першай жа магчымасці. Канчаецца ўсё тым, што Анюта зацяжарала і, калі хаваць цяжарнасць ужо не было як, збегла з інтэрната...

У галоўных ролях заняты Ганна Назар'ева, Сяргей Хрусталёў, Андрэй Смалякоў, Мікалай Трафімаў.

Кінамайстрамі Францыі створана мастацкая кінастужка **«Крутая дзяўчынка»**. Аўтары сцэнарыя — Эрве Палю, Ігар Аптэкман, рэжысёр — Эрве Палю.

На свеце нямала «крутых» дзяўчынак, але француженка Кароль дасць фору многім. Пры тым, што ёй 15 гадоў, Кароль паспела займець каларытную біяграфію. У 5 гадоў тайком курыла, у 13 — зацяжарала, у 14 адправілася вандраваць па свеце. Так гаворыць пра яе дзед Жорж Лямбер, уладальнік аэраклуба пад Парыжам. Ён спрабаваў выхоўваць унучку, але чым яна займалася, ён мог толькі здагадвацца. А вадзілася яна галоўным чынам з тым, каго ў паліцэйскіх пратаколах называюць «крымінальнымі элементамі...»

Цікава праводзяць свае ролі ў фільме Джоні Халідэй, Мэйдэн, Жан-Франсуа Стэвенен.

Змогуць паглядзець гледачы таксама амерыканскую мастацкую кінакарціну **«Ястраб пустыні»**. Яе пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Айсэк Флорэнтайн. Ён жа разам з Джымам Лотфі напісаў і сцэнарый фільма.

Унук індзейца-следапыта і сын загінуўшага ў В'етнаме салдата Джо Хоўн, ці Ястраб, вырашае кінуць кар'еру паліцэйскага і пасяліцца ў пустыні. Стаміўся ён ад усяго... Але даўні прыяцель Леры, мясцовы шэрыф, які нібыта марыць пакончыць з наркамафіяй, якую ўзначальвае таямнічы Сантас, просіць Ястраба не пакідаць яго без памочніка. На самай справе Леры хітруе, аб чым, вядома ж, даверлівы Ястраб не здагадваецца. Шэрыф даўно ўжо куплены Сантасам (ён жа Шульц) і той па сваіх каналах змог перадаць, што ад яго збегла бухгалтарка з братам, паспеўшы перавесці на вядомы толькі ёй рахунак дваццаць мільёнаў. Вядома, за злаўленне бухгалтаркі Леры паабяцаў кругленькую суму. Ястраб паддаецца на ўгаворы і накіроўваецца наўздагон уцекачам...

Галоўныя ролі выконваюць Джон Хэмс Ньютан, Джудзі Арансан, Сэм Дэ Франсіска.

У ЗША знята таксама мастацкая кінастужка **«Смяротны снег»**. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Рональд Гортан.

Як вядома, снег — гэта не толькі атмасферныя ападкі, але і прынятае ў ЗША жаргоннае абазначэнне наркотыкаў. Значыць, зноў гаворка аб барацьбе з наркамафіяй? Так і ёсць. Нічога не баяцца «гандляры смерцю», калі за імі стаіць усёмагутны наркабарон Томас Блодан, у якога мільёны ў банках, банды забойцаў, вопытныя юрысты.

Уратаваць горад узяўся Дольф Рэйпер...

Галоўных герояў іграюць Нікалет Гуле, Энтані дэ Санта, Тоні Крэйч, Эйпрыл Брэнсан.

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



**Энцыклапедыя прыроды Беларусі называе яе проста пратокай, што аб'ядноўвае азёры Мястра і Нарач. Даўжыня яе ўсяго толькі дзвесце метраў. А на Мядзельшчыне Скему называюць ракой. Самай кароткай, такой прыгожай і роднай. І хто ж гэта даў ёй імя нейкай там пратокі?**

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**
**Фота аўтара.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 4 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Навіны. **8.15** «Дубраўка». Маст. фільм. **9.30** Мультфільм «Востраў скарбаў». 1-я серыя. **10.25** «Белвідэацэнтр» прадстаўляе: «Дастоева і Дастаеўскі». Дак. фільм. **10.50—11.50** «Зорная ростань». Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады. Фінал. Экран — абітурыенту **13.25** Беларуская літаратура. **13.55** Гісторыя Беларусі ў XIX—XX стагоддзях. **14.25** Руская літаратура. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.40** «Тры браты і зялёны дракон». Мультфільм. **15.50** Куды пайсці вучыцца? Вышэйшыя навучальныя ўстановы. Прамая лінія. **16.30** Марсава поле. Праграма для вайскоўцаў. **17.00** Крэда. Новыя абутковыя прадпрыемствы на Беларусі. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** Беларускі дом. «Свята Ефрасінні на Полацкай зямлі». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па адняму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял. **20.05** Творчае аб'яднанне «Крок». «Оскар». Тэлегульня. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** «Каралева Марго». 9-я серыя. **23.05** «Крок». Міжнародны маладзёжны лагер «Дружба славян». **23.35** Каралеўскае паляванне. **0.15** Навіны.

**ГРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15** Навіны. **8.15** «Сакрэт трапіканкі». **9.05** «Парыжскія тайны» Эльдара Разанава». Робер Асейн. **9.45** Клуб падарожнікаў. **10.30** Мультфільм. **10.40** Смак. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам міру». **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.45** Лего-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** Рок-урок. **16.30** Сем дзён спорту. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Час пік. **18.35** Лато «Мільён». **19.00** Адзін на адзін. **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Прагрaма перадач. **20.45** Маст. фільм «Мы з джаза». **22.25** «Абоз». **23.30** «Ліцадзеі». Фільм-канцэрт. **0.00** «Мушкецёры праз дваццаць гадоў». 1-я серыя.

**Канал «Расія»**

**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.10** Весткі. **8.30** Сам сабе рэжысёр. **9.00** «Санта-Барбара»: Маст. фільм. **9.55** Кліп-антракт. **10.20** «Злачынства з многімі невядомымі». Маст. фільм. 1-я серыя. **11.20** Рэтра-шлягер. **11.50** «Дзеці». Дак. фільм цыкла «Час вялікіх падманаў». **12.15** Дзелавы аўтограф. **12.25** «Расія, якая гадзіна?» Дак. фільм. **12.55** Магазін нерухомасці. **13.20** «Гэй, вухнем!» Фальклорны фестываль. **13.30** «Дон Кіхот Ламанцкі». Мультсерыял (Іспанія). **14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя. **14.40** Дзелавая Расія. **15.05** Расія ў тварах. **15.20** Там-там навіны. **15.50** Каляндар. **16.20, 23.25** Музыка ўсіх пакаленняў. **16.35** Залежыць ад цябе. **16.50** «Дзяўчынка з заўтра». Серыял для падлеткаў (Аўстралія). **17.20** Экспавідэа. **17.30** Раз у тыдзень. **18.00** Лідэр-прагноз. **18.25** Нічога, акрамя. **18.40** «Цёмная» для Я. Ткачэнкі. **19.35** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **20.30** Эх, дарогі! **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** «Чэмпіён». Маст. фільм (ЗША). **22.55** Дзённік фестывалю «Ніжагародскі кірмаш». **23.40—0.08** Арт-абстрэл.

**Расійскія універсітэты**

**8.00** Мір вашаму дому. **8.10** Пенсіён. **8.30** «Імітатар». Маст. фільм. **10.00** Антрэ-соль. **10.30** СІВ. Навіны. **10.40** Нямецкая мова для дзяцей. **11.00** «Вышыня Тамары Быкавай». Тэлевізійны дак. фільм з цыкла «Чэмпіёны». **11.30** У рабочы поўдзень. **12.00** Пяць хвілін. **12.05** Камп'ютэрны веснік. **12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы. **13.00** Іграе джаз-квартэт «Амстэрдам — Масква». Перадача 2-я. **13.25** СІВ. Навіны. **13.30** «Безымянная зорка». Маст. фільм. 1-я серыя. **14.35** «Мімалётнасці». **14.45** «Дом, дзе сагравающца сэрцы». Музей-сядзіба «Абрамцава». **15.30** Тэатр маёй памяці. **16.00** Музычныя навіны. **16.15** «Музон». **16.45** СІВ. Навіны.

**НТБ**

**17.00** Тэніс. Уімблдон-96. **18.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Маст. фільм «Граніца» (ЗША). **21.00** «Сёння». **21.35** Дэтэктывы Д. Х. Чэйза. «Грыф — птушка цярплівая». 1-я серыя. **22.30** Часінка. **23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск. **23.20** Тэніс. Уімблдон-96. **0.20** Кіно не для ўсіх. Маст. фільм «Самбра Траорэ» (Францыя—Буркіна Фасо).

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 12.55, 14.55, 16.55, 18.55, 22.00** Інфарм ТБ. **12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** «Вялікі чалавек». Серыял. **15.10** «Адзінка». Маст. фільм. **16.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **17.05** «Філасофія па філу». Серыял для падлеткаў. **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.15** Толькі без панікі. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Вялікі чалавек». Серыял (Італія). 4-я серыя. **22.20—23.33** «Васька». Маст. фільм. 3-я серыя.

## ВІНШАВАННІ

Сардэчна віншуем з днём нараджэння **ПАВАЛКОВІЧА Івана Казіміравіча**. Веры, удачы, здароўя.

*Бацькі, жонка.*

Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Іну Васільеўну БУЙНЕВІЧ**. Жадаем здароўя, шчасця, міру і любові.

*Віктар, Люба, Лена, Дзіма і Оля.*

Віншуем з васемнаццацігоддзем унука **ГУШЧУ Алега Вячаслававіча**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, выдатных поспехаў у вучобе.

*г. п. Любча. Бабуля і дзядуля.*

Ад усяго сэрца віншуем з днём нараджэння **ШНЭК Валянціну Аляксандраўну**. Жадаем добрых і доўгіх гадоў жыцця.

*г. Слуцк. Муж, дзеці.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕЗІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288.
Індэкс 63850.
Зак. № 3323.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.